

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 26 студзеня 1990 г. № 4 (3518) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


*Беларускай мове—статус дзяржаўнай*

## У ДОБРЫ ЧАС!

Сёння ў Мінску пачынае работу сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі, якая павінна прыняць «Закон аб мовах у Беларускай ССР». Тым самым будзе афіцыйна завершана ўсенароднае абмеркаванне праекта закона, ход якога досыць шырока асвятляў рэспубліканскі друк, радыё і тэлебачанне.

Шырокае абгаварэнне праекта закона ішло і на старонках нашага штотыднёвіка. Дзесяткі, сотні лімаўскіх чытачоў даслалі ў рэдакцыю індывідуальныя і калектыўныя лісты (вялікая колькасць з іх была апублікавана), у якіх выказалі свае адносіны, а таксама заўвагі і прапановы па праекце закона. Абсалютная большасць чытачоў аднадушна падтрымала яго асноўныя палажэнні. Калі коратка суміраваць чытацкія водгукі, дык іх можна звесці да такога вось заключэння: беларуская мова ў рэспубліцы павінна стаць мовай дзяржаўнай, гэта адзіны шанц і адзіная магчымасць уратаваць яе ад канчатковага забыцця і вымірання.

Такую думку выказваюць не толькі чытачы-беларусы, але і многія прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, што здаўна жывуць на Беларусі. Людзі разумеюць, што толькі пры такой увазе і павазе да мовы карэннай нацыянальнасці будуць забяспечаны такія ж паважлівыя адносіны і да моў іх нацыянальных меншасцей у рэспубліцы.

Пошта апошніх дзён засведчыла асабліва высокі напал чытацкіх страсцей вакол праекта Закона аб мовах у Беларусі. Гэтаму новаму ўсплёску эмоцый чытачоў паспрыяла, несумненна, набліжэнне сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Цытаваць тут альбо пераказваць змест усіх лістоў не выпадае, ды і пільнай неабходнасці ў тым няма. Аднак адзін ліст усё ж працытуем. Даслалі яго работнікі навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл», што ў Мінску. Ліст падпісалі Я. Біч, В. Барадака, І. Фядотаў, І. Кірылюк і іншыя — усяго больш чым пяцьдзесят чалавек. Вось што яны пішуць, у прыватнасці:

**«Чаму ў Беларусі амаль не засталося беларускіх школ? Чаму мы, народжаныя ў Беларусі, мы, што вучыліся ў тутэйшых школах і ВНУ, не ведаем сапраўднай гісторыі свайго краю, культуры свайго народа? Колькі такіх пакаленняў ужо вырасла? Хто вінаваты ва ўсім гэтым?**

**На наш погляд, праект Закона аб мовах, калі ён будзе прыняты, зможа выправіць становішча. Мы лічым, што аўтары праекта папрацавалі вельмі добра. Тут улічаны ўсе фактары, варыянты і магчымасці.**

**Хацелі б выказаць упэўненасць, што закон будзе прыняты і будзе жыць і працаваць. У добры час!»**

Нам застаецца ўслед за нашымі чытачамі таксама сказаць Закону аб мовах (ужо не праекту, а закону!):

— У добры час!

*Выбарчы клуб «ЛіМа»*

## ДАЗВОЛЕНА ЮПІТЭРУ?..

### З журналісцкага блакнота гэтых дзён

**23 СТУДЗЕНЯ было апошнім днём вылучэння кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР і мясцовых Саветаў. У час, калі пішуцца гэтыя радкі, афіцыйных дадзеных аб тым, колькі зарэгістравана кандыдатаў па ўсёй рэспубліцы, няма, але, тым не менш, зыходзячы з нашай пошты (частка яе была апублікавана на старонках штотыднёвіка пад рубрыкай «Выбарчы клуб «ЛіМа»), з уласных назіранняў, усё ж дазволю сабе падзяліцца думкамі аб некаторых асаблівасцях гэтага першага этапа выбарчай кампаніі.**

Перш-наперш хочацца адзначыць далёка неадназначную актыўнасць выбаршчыкаў пры вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Саветаў розных узроўняў. Адны сходы вызначаліся эмацыянальным усплёскам, вострымі дыскусіямі, барацьбой за кожнага прэтэндэнта, на другіх панавалі апатыя і абыякавасць. Апошняе тычылася найчасцей сходаў, дзе вылучалі кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў—раённых, пасялковых і сельскіх. Тут часта было праблемай нават сабраць сход. Неаднойчы даводзілася чуць скаргі членаў выбарчых камісій на незразумелую пасіўнасць людзей, на велізарную колькасць самаадводаў сярод тых, каго вылучаюць у кандыдаты.

Мне думаецца, што гэта вынік глыбокага расчаравання людзей дзейнасцю многіх органаў Савецкай улады на месцах. Многія з іх даўно ператварыліся ў частку каманднa-бюракратычнай машыны, якая безадмоўна дубліруе рашэнні і пастановы партыйных камітэтаў.

На думку некаторых нашых чытачоў, аджыў і сам парадак выбараў старшынь Саветаў.

(Працяг на стар. 2).

А былі ж некалі зімы... Фотаэцюд А. НЯМЫЦКАГА.

# ДАЗВОЛЕНА ЮПІТЭРУ?..

**(Пачатак на стар. 1).**

«У цывілізаваных краінах,—піша настаўнік-пенсіянер з пасёлка Астромічы Кобрынскага раёна **П. Бандарчук**,—мэр горада, старшыня муніцыпальнага Савета выбіраюцца напрамую, усёй грамадою. У нас жа галаву Рады выбіраюць, часта па ўказцы зверху, яе члены, што не дэмакратычна».

Нямала падстаў для незадаволенасці выбаршчыкаў далі і сходы па вылучэнні кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР. Трымаю ў руках тэлеграму, дасланую выбаршчыкамі з Калінкавічаў. Вось яе тэкст: «Груба, з парушэннем праводзіцца вылучэнне кандыдатаў па Калінкавічах, што свядома падтрымліваецца гаркомам партыі. У Калінкавіцкім саўгасе - тэхнікуме адбылося вылучэнне кандыдатаў ва ўсе тры Саветы — дырэктара, намесніка дырэктара, сакратара партарганізацыі—пры адсутнасці кворуму, з парушэннем працэдуры вылучэння. Усе ўведзены ў зман. Прымяняецца сілавы націск на выбаршчыкаў. Выбаршчыкі ў знак пратэсту пакінулі залу».

Відаць, партыйным функцыянерам цяжка звыкнуцца з сённяшнімі рэаліямі — абуджэннем палітычнай свядомасці мас, іх прагай дэмакратыі, праўды, роўнасці перад законам. Ствараецца ўражанне, што больш за ўсё нашых апаратчыкаў палохае ўсталяванне менавіта роўнасці перад законам, калі ўжо нельга будзе кіравацца на кожным кроку старажытнай сентэнцыяй—«Што дазволена Юпітэру, тое не дазволена быку».

Тэлеграма калінкавіцкіх выбаршчыкаў — не адзінае сведчанне самаўпраўства мясцовых «юпітэраў», іх непрыхаванага дыктату, жадання «не мытьем, так катаньем» дамагчыся сваёй мэты. Напрыклад, некалькі лістоў прыйшло з адной вёскі Мядзельскага раёна, дзе на выбарчым сходзе меркавалася вылучаць высокапастаўленага кандыдата. Каб падтрымаць вылучэнне, у вёску прыехалі адразу першы і другі сакратары райкома партыі, намеснік старшыні райвыканкома, прадстаўнік райгазеты. А рабочых мясцовага саўгаса, паведамляюць чытачы, папярэдзілі, што кожны, хто не пойдзе на сход, будзе пазбаўлены трынаццатай зарплаты, а летам яму не дазволяць накасіць сена для сваёй жывёлы...

Згодна з законам аб выбарах, кандыдатам у народныя дэпутаты павінны быць забяспечаны роўныя правы ў правядзенні імі сваіх выбарчых кампаній, у прыватнасці, выпуску агітацыйных лістовак, плакатаў, выступленнях у сродках масавай інфармацыі і г. д. Трымаю ў руках вялікую, надрукаваную на добрай паперы лістоўку з красамоўна напісанай біяграфіяй аднаго адказнага таварыша, вылучанага ў народныя дэпутаты БССР, і не магу пазбавіцца пачуцця неўразумення. Калі ж яна была выпушчана, бо ў рэдакцыю трапіла 22 студзеня, да пачатку афіцыйнай рэгістрацыі кандыдатаў выбарчымі камісіямі? Ад гэтага адмінусуйце яшчэ два дні — столькі іншагародні канверт з лістоўкай ішоў у рэдакцыю, ды і выпуск гэтай «друкаванай прадукцыі» — не мінутная справа: трэба напісаць, удакладніць, надрукаваць... Вось і прыходзіць міжволі ў галаву думка: а ці не выпусцілі гэтую лістоўку яшчэ да вылучэння паважанага кандыдата? Рызыкі ж ніякай — важкая асоба ў вобласці, заслужаны чалавек, вылучаць абавязкова...

І ЯШЧЭ АДНА гісторыя. Уявіце сабе вялізную залу, да адказу запоўненую людзьмі ў белых халатах. Сцэна, прэзідыум. На трыбуне—малады чалавек. Толькі што ён выклаў сваю выбарчую праграму і цяпер чакае пытанняў. З крэсла ў першым радзе падымаецца пажылы мужчына (таксама ў халаце), накіроўваецца да мікрафона, які ўстаноўлены ў зале. «У мяне да вас некалькі пытанняў,—кажа ён.—Першае: як вы ставіцеся да аддзялення БССР ад Савецкага Саюза? Другое: ці з'яўляецеся вы членам БНФ? Трэцяе: як атрымалася, што вы, старшыня прафсаюзнага камітэта, дазволілі на прафсаюзным стэндзе вывесіць выбарчую праграму народнага фронту?»

Малады чалавек, аддадзім яму належнае, не разгубіўся, адказваў спакойна, разважліва, хоць, пагадзіцеся, пытанні былі яўна разлічаны на тое, каб настроіць залу адпаведным чынам, унесці ў размову «нездаровы» падтэкст. Праўда, малады чалавек не сарваўся, растлумачыў спакойна: «Побач з праграмай БНФ, калі вы заўважылі, вісіць і выбарчая праграма райкома партыі. Няхай людзі параўноўваюць. На тое ён і ўсталёўваецца, плюралізм думак».

Адчуваю нецярпенне чытача: дзе ўсё гэта адбываецца? Не буду інтрыгаваць: на выбарчай канферэнцыі ў навукова-даследчым Інстытуце анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР. Малады чалавек на трыбуне — урач - паталагаанатам, ён жа выбраны старшыня прафкома, прэтэндэнт у кандыдаты Юрый Антонавіч Баговіч. Пажылы мужчына ля мікрафона—доктар медыцынскіх навук, дырэктар інстытута Ігар Рыгоравіч Жакаў, таксама прэтэндэнт у кандыдаты.

Як я даведаўся, гэты «дыялог» меў перадгісторыю. У першы дзень работы канферэнцыі на вылучэнне кандыдатамі ў народныя дэпутаты БССР прэтэндавалі І. Жакаў (Ігар Рыгоравіч — член Мінскага райкома партыі) і доктар медыцынскіх навук, Генадзь Мікалаевіч Мураўёў. Але ніводзін з іх не набраў патрэбнай колькасці галасоў. Было вырашана прадоўжыць канферэнцыю яшчэ на адзін дзень.

Хачу тут звярнуць увагу чытача на адну немалаважную акалічнасць. У той, першы, дзень работы канферэнцыі пры абмеркаванні кандыдатуры дырэктара з рэзкай крытыкай яго пазіцыі ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі выступіў менавіта Ю. Баговіч.

І. Жакаў—адзін з 92 вучоных краіны і Беларусі, што падпісалі сумнавядомае пісьмо М. С. Гарбачову, у якім ставіцца пад сумненне рэальная небяспека чарнобыльскай аварыі, рэкамендуецца «не спяшацца» з эвакуацыяй усяго насельніцтва з забруджанай зоны.

На канферэнцыі я пераканаўся, што Ігар Рыгоравіч цвёрда стаіць на сваім і зараз. Спачатку нават не паверыў сваім вушам, калі пачуў з яго вуснаў, што перасяляць з зоны ўсіх людзей эканамічна не выгадна, хто хоча застацца—хай застаецца. «Трэба зразумець,—гаварыў І. Жакаў,—што поўнае перасяленне з зоны затармозіць жыллёвае будаўніцтва па ўсёй рэспубліцы. І многім з нас, хто стаіць у чарзе на кватэру, прыйдзецца развітацца са сваімі спадзяваннямі». Не верыце?! Гэтыя словы запісаны ў мяне на магнітафонную плёнку. А да гэтага дадам, што ўжо дома знайшоў «Звязду» за 13 студзеня з апублікаванай у ёй справаздачай аб выязным пасяджэнні Акадэміі навук рэспублікі ў Магілёве, прысвечаным абмеркаванню навуковых праблем ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У гэтай справаздачы занатавана выступленне віцэ-прэзідэнта АН БССР А. Сцепаненкі. У ім ёсць такія радкі: «У 1988 годзе да 40 працэнтаў абследаваных дзяцей з Магілёўскай і Гомельскай абласцей мелі парушэнні ў рабоце лімфатычнай і крывятворнай сістэм. У 30 працэнтаў абследаваных людзей розных груп выяўлены змяненні імуннай сістэмы, што сведчыць аб магчымых перадумовах для фарміравання паталогіі». Вось вам і «эканамічна не выгадна»...

На канферэнцыі дырэктар зрабіў спробу дыскрэдытаваць яшчэ аднаго прэтэндэнта ў кандыдаты—доктара медыцынскіх навук Г. Мураўёва. Спосаб дыскрэдытацыі — з арсенала 30-х гадоў, фактычна данос. Генадзь Мікалаевіч, аказваецца, у прысутнасці Жакава аднойчы вымавіў, што не вельмі важна, як называецца лад у краіне, галоўнае, каб чалавеку жылося пры ім добра. «Я яго папярэдзіў,—паведаміў канферэнцыі І. Жакаў,—што, як камуніст, я павінен буду паведаміць пра гэтае выказванне ў адпаведныя органы».

Пацікавіўся ў загадчыцы сектара Мінскага райкома партыі Валянціны Адамаўны Лямешчанка, што сядзела побач, якой яна думкі пра Жакава. «Добры, мяккі чалавек,—адказала яна, — не хапае яму толькі цвёрдасці ў абыходжанні з работнікамі». Вось так...

Потым пачаліся выбары. Перамог з вялікай перавагай Ю. Баговіч.

Праз два дні пазваніў яму, пацікавіўся, як справы, які настрой. Настрой, сказаў Юрый Антонавіч, не надта добры. Неўзабаве пасля канферэнцыі І. Жакаў разам з трыццаццю сваімі падначаленымі напісаў ліст у абком прафсаюза, дзе ён, Баговіч, абвінавачваецца ў сувязях з Беларускім народным фронтам. Яго ўжо выклікалі туды «на ковер», патрабавалі напісаць тлумачэнне, сказалі, што прышлюць у інстытут камісію...

У мяне ўся гэта гісторыя выклікае не проста неўразуменне—трывогу. Дазволена Юпітэру?.. Ці не зашмат дазволена?

**Міхась ЗАМСКІ.**

# На фоне Чэхава...

**Аб падзеях 18 студзеня ў Цэнтральным Доме літаратараў**

Мінулы маскоўскі тыдзень прайшоў пад знакам Чэхава, 130-годдзя з дня нараджэння пісьменніка. 17 студзеня ў Цэнтральным Доме акцёра адкрылася канферэнцыя «Чэхаў у культуры XX стагоддзя», на якую, акрамя айчынных, прыехалі вядомыя славісты, даследчыкі рускай літаратуры з Англіі, Францыі, Канады, ЗША, Польшчы, Венгрыі, Кітая, Японіі... Афішы маскоўскіх тэатраў запрашалі на чэхаўскія спектаклі. У канферэнцыі былі добрыя спонсары: Акадэмія навук, Саюз тэатральных дзеячаў, Саюз пісьменнікаў, Саюз кінематаграфістаў. І яна, канферэнцыя, літаральна вандравала з аднаго гасціннага дома ў другі.

18 студзеня нас прымаў Цэнтральны Дом літаратараў на вуліцы Герцэна. Зранку, як звычайна, ішлі навуковыя даклады, выступленні. А ў перапынку мы заўважылі ў фае аб'яву: пісьменніцкае аб'яднанне «Апрель» запрашала ў 19 гадзін на «вольны мікрафон», меркавалася пагаварыць пра планы гэтага аб'яднання, яго далейшае існаванне, мелася таксама адбыцца выдача членскіх картачак «апрелевцам» (у «Апрель» мог уступіць любы член СП СССР) і продаж першага выпуску альманаха «Апрель» (галоўны рэдактар А. Прыстаўкін).

Некаторыя мае калегі па канферэнцыі, ведаючы, што «Апрель» — гэта пісьменніцкае аб'яднанне, якое з'явілася на хвалі дэмакратычных працэсаў у краіне, выказалі пажаданне прысутнічаць на сходзе. Такім чынам яны, у тым ліку прафесар Сарбоны Жан Бонамур, прафесар Варшаўскага універсітэта Рэнэ Сліўоўскі, прафесар Будапешцкага універсітэта Марыя Рэў, сталі сведкамі відовішча незвычайнага нават для бачыўшых «віды» сценаў ЦДЛ...

Мы з толькі што набытымі томікамі «Апреля» сядзім у першых радах вялікай залы на другім паверсе. На сцэну выходзяць ініцыятары «Апреля» — Ігар Дуэль, Вадзім Сакалоў, Анатоль Злобін... Паведамляецца, што Яўген Еўтушэнка, які павінен весці сход, трохі затрымліваецца. І ў гэты момант ззаду чуюцца крыкі. Азірнуўшыся, бачым, што ў задніх радах узняты ўгору рознакаляровыя лозунгі і плакаты з шавіністычнымі, фашысцкімі заклікамі, скіраванымі супроць яўрэяў, пісьменнікаў яўрэйскай нацыянальнасці. Быў плакат і з абразлівым выпадам супроць члена Палітбюро ЦК КПСС А. М. Якаўлева.

«Памяць», «Памяць»,— зашалясцела па радах. Дык вось яна, «Памяць», пра якую даводзілася чытаць у друку і бачыць па тэлебачанні. Вось яны зусім блізка, малойчыкі ў кашулях стылю «а ля рюс» з Георгіем Перамаганосцам. Перакошаныя ад злосці, нейкія дэгенератыўныя твары. Малойчыкі крычаць, размахваюць рукамі. Пасярэдзіне, пад аховай баевікоў, «правадыр» — тоўсты дзядзька з лысым чэрапам. У руках ён трымае гукаўзмацняльнік. Ён паўтарае ўголас тое, што напісана на плакатах, і яшчэ дадае ад сябе.

Кіраўнікі «Апреля» патрабуюць ад чарнасоценцаў, каб яны пакінулі залу. Але дзе там! «Правадыр» абвяшчае, што гэты дом пабудаваны на рускія грошы і няхай пісьменнікі яўрэйскай нацыянальнасці пакінуць яго. Частка пісьменнікаў падышла да чарнасоценцаў, выказваючы сваё абурэнне. Вядомы празаік Анатоль Курчаткін гнеўна гаворыць: «Я рускі пісьменнік і патрабую, каб вы пакінулі залу». У адказ чуецца брудная лаянка, Курчаткіна б'юць у твар, на падлогу ляцяць разбітыя акуляры. Ляманцуюць жанчыны, кагосьці штурхаюць на крэслы. Бачу, як нейкі тып з гнюснай фізіяноміяй вакзальнага барыгі спрабуе заламаць рукі за спіну Булату Акуджаве. Цяжка ўстрымацца...

Пакуль пісьменнікі сваімі сіламі даюць адпор раз'юшанай зграі, наша доблесная міліцыя не спяшаецца. Спачатку з'яўляюцца два сяржанты (узмоцнены нарад падышоў пазней), але яны не палічылі патрэбным разабрацца, «хто ёсць хто». Ну, вядома, гэтыя пісьменнікі, людзі неспакойныя, учынілі паміж сабой бойку — разбярыся тут. А тым часам «правадыр» пагражае пагромамі, называючы пры гэтым нават канкрэтную дату. Потым, пад аховай сваіх людзей, ён спакойна пакінуў залу, і ніхто з міліцыі нават не паспрабаваў яго затрымаць.

Нарэшце, усе пакінулі залу, дзверы зачынілі на ключ. Было аб'яўлена, што сход сарваны і адбудзецца пазней, праз некалькі дзён. Але людзі не разыходзіліся. Я бачу Віталя Кароціча, Алеся Адамовіча, Андрэя Бітава, Наталлю Іванову, Леаніда Жухавіцкага, Аляксандра Рэкемчука... Ва ўсіх нас адчуванне, што адбылося нешта і агіднае, і жудаснае. Усе задаюць адно і тое ж пытанне: «Як яны прайшлі сюды?» У ЦДЛ без білета члена СП не пройдзеш. А тут чалавек пад трыццаць, калі не болей, спакойна прайшлі.

Праз паўтары гадзіны, нібы падпольшчыкі (і гэта ў сваім уласным доме!), пісьменнікі нейкімі закулiснымі, чорнымі хадамі прайшлі за сцэну і праз яе спусціліся ў тую ж залу з замкнёнымі дзвярыма. Яўген Еўтушэнка зачытаў пісьменніцкі зварот да ўладаў. Акцэнт быў абсалютна дакладны: гэтага можна было чакаць, увесь ход папярэдніх падзей гаворыць пра тое, што «Памяць» набралася смеласці невыпадкова, што яна разлічвала на поўную высокую падтрымку. Апошні пленум праўлення СП РСФСР, дазволены мітынг «Памяці» на Краснай плошчы і вось ужо літаральнае размахванне кулакамі ў пісьменніцкім доме —гэта звенні аднаго ланцуга. Дарэчы, у ЦДЛ з'явілася тая ж самая групіроўка Сычова, якая «дэманстравала» на Краснай плошчы (аб чым паведамляў ужо «Огонёк»). На гэты раз яе ўзначальваў нейкі Смірноў-Асташвілі, той самы «правадыр» з мегафонам, які паабяцаў у наступны раз прыйсці сюды «з аўтаматамі».

Слова бярэ народны дэпутат СССР Галіна Старавойтава. «Не будзем баяцца гэтага новага для нас словазлучэння — гаворыць яна.— Будзем глядзець праўдзе ў вочы. Дамарослы фашызм на парозе нашых кватэр, ён ужо ўрываецца ў іх».

...Вярнуліся з аддзялення міліцыі тыя пісьменнікі, якіх сход дэлегаваў туды ў якасці сведкаў. Валянцін Аскоцкі паведаміў пра абражальны тон следчага, які пісьменнікам у прыклад прывёў тую ж «Памяць»: «Вось у іх заўсёды парадак... Не тое, што ў вашага брата».

Абмеркавалі і арганізацыйныя справы. Быў абраны аргкамітэт усесаюзнай пісьменніцкай асацыяцыі «Апрель».

Відаць, доўга я буду памятаць разгубленыя твары сваіх калег, замежных славістаў, гасцей Чэхаўскага свята — дзён гуманізму, дабра, любові да людзей...

**Сямён БУКЧЫН.**

Як мы паведамлялі, у Доме літаратара праходзяць вечары аўтэнтычнага фальклору, прысвечаныя 500-гадоваму юбілею Ф. Скарыны. У мінулую пятніцу ўсе тыя, хто прыйшоў у Дом літаратара, пазнаёміліся з народным мастацтвам Міншчыны, якое паказалі інструментальны ансамбль Клецкага раённага Дома культуры, у рэпертуары якога беларускія народныя песні і танцы, і ансамбль «Коласаўскія землякі» — аднавяскоўцы вялікага паэта, якія жывуць і працуюць у вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Гэты калектыў некаторы час шукаў сябе ў розных жанрах, і, нарэшце, вызначыў свой творчы шлях — ён стаў прапагандыстам той мастацкай спадчыны, што пакінуў пасля сябе іх знакаміты пясняр. Усяго ў ансамблі 16 чалавек, існуе пры ім і невялікі дзіцячы калектыў, у склад якога ўваходзяць і вучні 6—8 класаў.

На здымках: спявае Любоў ЛОГУТАВА, загадчыца сельскага клуба з Клецкага раёна; гучаць народныя песні; дырэктар Стаўбцоўскага РДК Марыя ГРЭСЬ са сваімі выхаванцамі.

Фота Ул. КРУКА.

# МАСТАКІ ПРАТЭСТУЮЦЬ

**Сход мастакоў Беларусі, на якім прысутнічала 740 членаў творчага саюза, абмеркаваў пастанову Вярхоўнага Савета СССР ад 3 жніўня 1989 г. «Аб падаткаабкладанні фонду аплаты працы дзяржаўных прадпрыемстваў (аб'яднанняў)». Мастакі аднагалосна выказалі катэгарычную нязгоду з распаўсюджаннем дзеяння гэтай пастановы на сферу культуры і мастацтва. На думку ўдзельнікаў сходу, рашэнне Вярхоўнага Савета СССР трэба разглядаць найперш як палітычную акцыю, накіраваную супраць нацыянальных культур Савецкага Саюза ўвогуле і выяўленчага мастацтва ў прыватнасці, супраць інтэлігенцыі — носьбіта духоўнасці, актыўнага змагара за перабудову.**

**Мастакі Беларусі нагадваюць, што прынцып самафінансавання і самаакупнасці ўжо шмат гадоў з'яўляецца асновай эканамічнага існавання Саюза мастакоў СССР. Замест таго, каб субсідзіраваць культуру, спрыяць яе развіццю, як гэта робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце, дзяржава накідвае на яе эканамічную пятлю.**

**Мастакі рэспублікі, як прадстаўнікі беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, лічаць гэтую пастанову амаральнай, бо вынікам яе рэалізацыі можа стаць толькі далейшая дэградацыя духоўнага жыцця народа.**

**Удзельнікі сходу звярнуліся да ўсёй творчай інтэлігенцыі Беларусі і краіны з заклікам падтрымаць патрабаванне аб адмене распаўсюджання прыгаданай пастановы на сферу культуры і мастацтва. Рэзалюцыя сходу накіравана ў Вярхоўны Савет СССР, Савет Міністраў СССР, праўленне Саюза мастакоў СССР.**

**НАШ КАР.**

# ЮБІЛЕЙ ПІСЬМЕННІКА - ВЕТЭРАНА

**Грамадскасць Бабруйска цёпла адзначыла 75-годдзе пісьменніка — аўтара рамана «На Далёкім Усходзе», аповесці «Пад намі цэль» і іншых твораў Анатоля Іванова, які жыве і працуе ў гэтым горадзе.**

**У цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М. Горкага праведзены літаратурны вечар-справаздача пісьменніка-юбіляра. Ва ўрачыстай абстаноўцы Анатолю Васільевічу ўручана Ганаровая грамата абкома партыі і аблвыканкома, якой ён удастоены за актыўную творчасць, зачытаны прывітанні сакратарыята Саюза пісьменнікаў БССР і абласной пісьменніцкай арганізацыі, абласной і гарадской арганізацый таварыства кнігалюбаў, рэдакцыі гарадской газеты «Камуніст», таварыства ветэранаў. Пісьменнікі і настаўнікі, бібліятэчныя работнікі, журналісты і рабочыя, юныя чытачы пажадалі юбіляру здароўя і далейшага творчага плёну.**

**Анатоль Васільевіч прачытаў урывак са свайго новага твора, адказаў на пытанні чытачоў, падзяліўся творчымі планамі.**

**А. НОВІК.**

**НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ**

# Буслай з Белфаста

**Ірландскі акцёр — госць купалаўскага тэатра**

СПАЧАТКУ прыйшла ў тэатр пошта. Вялізны пакет з ксеракопіямі, надрукаваных у розных газетах і штотыднёвіках артыкулаў, рэцэнзій, аглядаў, фотаздымкаў. Вельмі высокія ацэнкі спектакля «Парог» па п'есе А. Дударава, што паставіў у Белфасце летам мінулага года В. Раеўскі (сцэнаграфія Б. Герлавана, кампазітар А. Рэнанскі). Даволі незвычайныя для стрыманых жыхароў астравоў туманнага Альбіёна эмацыянальныя водгукі.

«Галоснасць прыйшла ў «Лірык-тэатр», — так назваў сваю рэцэнзію вядомы ірландскі тэатразнавец Робін Лівенстон. А вось яшчэ красамоўныя загалоўкі: «Парог — гэта блізкае для Ірландыі», «Мінулае адыходзіць, калі ўзнімаецца жалезная заслона», «Таварышы з Беларусі на парозе нашай сцэны», «Прамень галоснасці ў тэатры ў Белфасце», «Савецкая п'еса пераступае парог мары», «Унікальны тэатральны вопыт», «Парог — да ўзыходу сонца ці назад, у цемру?», «Захад сустракаецца з усходам на прэм'еры «Парога».

«Самым лепшым кампліментам для «Лірык-тэатра», — заканчвае сваю рэцэнзію Р. Лівенстон, — з'явілася тая авацыя, якой у перапоўненай зале публіка пасля прэм'еры «Парога» сустрэла А. Дударава і В. Раеўскага». Ірландская прэса звяртае ўвагу чытачоў на сувязь пастаноўкі беларускай п'есы ў Белфасце з тымі працэсамі перабудовы і дэмакратызацыі, што адбываюцца ў Савецкім Саюзе. «Гэты спектакль, — піша Джэрмі Кінгстан у газеце «Белфаст тэлеграф», — сведчанне таго, што словы «гласность» і «перестройка» ўжо трывала ўвайшлі і ў англійскую мову».

Але асноўная размова ў друку вядзецца вакол праблем, што ўзнімае п'еса А. Дударава, і таго, наколькі гэта хвалюе сучаснага ірландскага гледача. «У спектаклі тахое спалучэнне камічнага і трагічнага, — зазначае аглядальнік «Ньюз экстрактс» Джэйн Койл, — у якім бачым непасрэдныя аналогіі з жыццём ірландцаў, з агульнай для многіх праблемай спаду духоўнасці, пошукам прычын алкагалізму... Персанаж А. Дударава даходзіць у сваім падзенні да апошняга парога, за якім — духоўная і фізічная смерць, і гэта не можа не хваляваць і не прымусіць задумацца». Другі аглядальнік, Давід Грант, звяртае ўвагу на тое, што аўтар п'есы і рэжысёр-пастаноўшчык працуюць у вельмі плённай у савецкай літаратуры і савецкім тэатры сатырычна лірычнай традыцыі М. Гогаля і М. Эрдмана. «У спектаклі працуюць усе сродкі мастацкай сцэнічнай выразнасці, — піша Д. Грант. — Глыбіня ўздзеяння вынікае з зусім, здавалася б, простых рэчаў. Пастановачная манера рэжысёра В. Раеўскага насычана ціхай сілай, упэўненым спакоем, які моцна прываблівае гледача». Рэцэнзентка газеты «Сандзі рэвю» Гранія Мак-Фадэн таксама аналізуе, як у спектаклі «Лірык-тэатра» ўскрываюцца праблемы, якія аднолькава хвалююць людзей і ў Савецкім Саюзе, і ў Ірландыі. «Герой п'есы А. Дударава Буслай шукае святло, якога ён не бачыць у рэальным жыцці, — заўважае Г. Мак-Фадэн. — Беларусы і рускія, аказваецца, гэтак жа любяць сваіх няшчасных, як і мы, ірландцы».

Многія рэцэнзенты адзначаюць вельмі ўдалае вырашэнне мастаком Б. Герлаванам сцэнічнай прасторы спектакля, спыняюцца на выкананні артыстам Б. Дж. Хогам ролі Буслая — галоўнай ролі ў драме А. Дударава. «Хог стварае вобраз чалавека, якога ўжо вельмі цяжка ўратаваць, але чалавека высакароднага, з пачуццём уласнай годнасці», — заўважае Д. Грант. «Артыст дадае ад сябе агеньчык гумару, які так патрэбны ў такой сур'ёзнай п'есе, — піша Г. Мак-Фадэн. — Часам гэта чорны гумар, але ён цалкам у рэчышчы гуманістычнай традыцыі».

Неўзабаве пасля прэм'еры «Парога» ў «Лірык-тэатры» журналісты паведамілі, што В. Раеўскі запрасіў Б. Дж. Хога прыехаць у Мінск і сыграць Буслая ў спектаклі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

І ВОСЬ Браен Джэймс Хог, Біджэй, як да яго звяртаюцца і В. Раеўскі, і Б. Герлаван, і А. Дудараў, і калегі ў Ірландыі, прыехаў у Мінск. Пачаліся неабходныя рэпетыцыі — 2 і 3 лютага ён выйдзе на купалаўскай сцэне ў спектаклі «Парог» у ролі Буслая.

Просім артыста расказаць, як у «Лірык-тэатры» ішла работа над беларускім спектаклем.

— Спачатку — пачуццё страху: складанейшая роля, вельмі кароткі тэрмін рэпетыцыйнага перыяду. Нашы тэатры пераважна не рэпертуарныя з пастаяннай трупай, артысты наймаюцца па кантракце на адну пэўную пастаноўку. У той час па вечарах я іграў у сучаснай англійскай камедыі, днём і ўначы вучыў ролю. Лёс Буслая, вясковага чалавека, якога цісне сучасны горад, быў мне блізкі і зразумелы: да таго, як я стаў артыстам, давялося павандраваць па свеце, шукаючы пэўны занятак... Я адразу зразумеў, што такіх Буслаеў у Ірландыі многа, хацелася расказаць пра іх. На англійскую мову «Парог» пераклала вядомая перакладчыца Ніна Фроўд, але мы разам з паэтам Дэрэкам Махонам актыўна рэдагавалі тэкст, рабілі сцэнічны варыянт перакладу, каб ён гучаў па-англійску свабодна і натуральна.

Вельмі цікава было працаваць з Валерыем Раеўскім. Ён з вялікай павагай ставіўся да нас, падрабязна тлумачыў, што ён ад нас патрабуе, а галоўнае — паказваў, пражываў разам з кожным з нас той ці іншы эпізод будучага спектакля. Я назваў бы яго манеру рамантычнай у адрозненне ад нашых рэжысёраў, якія не так блізкія да акцёраў у рэпетыцыйным перыядзе. Адна вельмі важная фраза, напрыклад, даволі доўга ніяк не гучала арганічна, мы з рэжысёрам доўга шукалі варыянт яе сцэнічнага гучання: «Што ёсць чалавек у параўнанні з душой? Душа — яна праўдзівая, як сэрца селяніна, чыстая, як сіла працаўніка, мудрая і велічная, як маці зямля», — прыкладна так гучыць у нашым «Парогу» па-англійску гэтая фраза. Павага да зямлі — гэты матыў вельмі блізкі ірландцам, таму наш глядач так добра прымаў спектакль. Я на кожным спектаклі добра бачыў, як плакалі гледачы ў фінале, калі маленькі Рыгорка прыходзіў сустрэцца з бацькам, але не пазнаваў яго. Значыць, расказаная намі гісторыя хвалявала па-сапраўднаму. Не магу не адзначыць маіх калег, выканаўцаў іншых роляў: Марыяну Вілсан (Аліна), Алана Дэлвіна (Шаргай), Трудзі Кэлі (Маці), Бодзі Свіні (Бацька), Шона Коунза (Драгун) і ўсіх астатніх.

БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА. Б. Дж. Хог нарадзіўся трыццаць тры гады назад у Лесборне на поўначы Ірландыі ў сям'і рабочага-суднабудаўніка. Працаваў на розных работах у Ірландыі і Швейцарыі. Захапляўся музыкай. Марыў стаць артыстам. Браў прыватныя ўрокі спеваў, дыкцыі, сцэнічнага руху, фехтавання. Пачынаў у мюзіклах. Там яго заўважылі аднойчы і запрасілі ў драматычную трупу. З таго часу рэгулярна запрашаецца на розныя спектаклі ў тэатрах Лондана, Дубліна, Белфаста. Актыўна працуе ў брытанскіх тэле- і радыёкампаніях, ў кінематографе.

**2 і 3 лютага Б. Дж. Хог выйдзе на сцэну Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў ролі Буслая ў спектаклі «Парог».** Упершыню ў СССР англамоўны артыст прымае ўдзел у драматычным спектаклі, і гэта таксама — характэрная прыкмета новага часу, часу сапраўднай народнай дыпламатыі, адкрытасці, дружбы, супрацоўніцтва. Свой артыстычны ганарар Б. Дж. Хог пераводзіць на рахунак фонду ў дапамогу дзецям Чарнобыля.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

Ля ўвахода ў купалаўскі тэатр — В. РАЕЎСКІ, Г. Д. ХОГ і А. ДУДАРАЎ. Фота Ул. КРУКА.

**Васіль ЖУКОВІЧ**

# З КНІГІ «РАЗНЯВОЛЕННЕ»



## *Шкадаванне*

Частка думак маіх
тамілася ў турмах
рэдакцыйных сталоў і архіваў,
антрэсоляў кватэры,
шуфлядак майго стала.
Я шкадую: не даў ім лепшае долі;
яны задыхаліся (так не хапала паветра!),
нямелі (так бракавала гамонкі!)
і слепнулі (так не ставала святла!).
Аднак
мне болей шкада
тых думак, якія
не выйшлі за межы галавы, —
гэта было самагубства...
Яны існаваць не хацелі
ва ўмовах
брэжнеўскай труннай эпохі.
А жыць не маглі.
P. S.
Няблага жылося думкам,
якія
палітыкі не чапалі.

●

Господи! Сколько сейчас в России Ноздревых (кто кого и как не ошельмовывает! кто чего на что не выменивает!) — Коробочек («а почем сейчас в городе мертвые души?», «а почем сейчас на рынке дамские манекены?» я, например) — Маниловых («Храм Дружбы» — Дом Счастливой Матери») — Чичиковых (природный спекулянт!). А Гоголя нет. Лучше бы наоборот.

**З дзённікавых запісаў Марыны Цвятаевай.**

Масква, зіма 1919—1920.

Безусловно, нам нужны
Щедрины и Гоголи,
Но такие Гоголи,
Чтобы нас не трогали!

**Ананімны твор застойнага перыяду.**

Падумаў я міжволі: «Што было б,
з'явіся ў трыццаць сёмым Гогаль
новы?»
А што было б? Калі не куля ў лоб,
дык высылка, архіпелаг суровы,

дзе ні паперы, ні карандаша,
адно піла, сякера, лом, лапата.
Тыранам не падаўлена душа—
падзённага табе прыстаўляць ката...

Ну а ў застой мякчэйшы быў бы кат,
суб'ект, якому смачна п'ецца, есца.
— Вы ачарнілі, Гогаль, новы лад, —
сказаў бы ён, — таму вам тут —
не месца!..

І перш чым за мяжу прагонім вас,
схаваем ад народа вашы творы;
а нацкуем на вас рабочы клас:
«Такое мог стварыць ідэйны вораг...»

Не, Гогаля сучаснага няма,
не шэнціла дваццатаму стагоддзю.
Калі шчыруе цемра і турма,
часцей за ўсё прыдворныя прыходзяць.

## *Хто забяспечвае таемнасць?*

Ах, Курапаты, Курапаты!
Народны боль і гнеў народны.
Тут,
«Чорным воранам» узяты,
забіты чыйсьці бацька родны,

а чыйсьці брат, а чыйсьці любы.
Тут колькі тысяч абыланых
і тайна звозімых на згубу
закатавана, закапана?

Не ўцёк ніхто з жывых ахвяраў
ад інквізітараў чырвоных.
Чаму ж няма забойцам кары?!
І дзе паклёпнікаў імёны?

Маўчаць суды, маўчаць архівы
і следчыя, хоць сведкаў — мноства.
І дажываюць век шчасліва
арганізатары забойстваў.

## *Праклён*

З «Пісьма шчаслівага ўзбекскага народа правадыру народаў вялікаму Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну да адкрыцця 18 з'езда ВКП(б)»:

На наше счастье ты родился,
наш отец!
Благодарим тебя от глубины сердец!
. . . . . . . . . . . .
Волны озерной плеск—о Сталине
поет.
Снегов нагорный блеск—о Сталине
поет.
. . . . . . . . . . . .
Не станет зайцем тот, кто носит
гриву льва.
Готовы кровью мы ответить за слова!

**Анталогія ўзбекскай паэзіі, Масква. 1950.**

Калі прыдворныя гавораць за народ
і называюць свой народ шчаслівым
(усё адно, ці слепа, ці лісліва),
існуе тыранія і прыгнёт.

Калі пяюць імя правадыра,
усё вышэй узносяць культ ягоны,
правадырам патоптаны законы,
і ад яго ўжо не чакай дабра.

Калі ў бязмежнай вернасці хлусні
крывёю нехта ўласнаю клянецца, —
чыясьці кроў нявінная ліецца...
Мая душа, ты рабства пракляні!

●

Беларусы
адны з першых
ішлі ў партызаны,
неслі захопнікам пекла;

адны з першых
ішлі ў пекла чужое —
пад кулі, снарады душманаў;

адны з першых
апраменьваліся
ў горкай чарнобыльскай зоне;

адны з першых
апыналіся ў кропках гарачых
Нагорнага Карабаху;

адны з першых
адгружаем прадукцыю
у рэспублікі брацкія.

Беларусы!
Няўжо мы таму апошнія
называем сваёй мову родную?!

## *Суседу, якога ўжо няма на зямлі*

Ні дачкі, ні сына не пакінуў,
нават дрэва ты не пасадзіў,
па зямлі так мала пахадзіў,
маладзенькім воінам загінуў.

Спадчына твая, байца-салдата, —
дваццаць два кароткія лісты;
у лістах паведамляў дахаты,
што жывы і што здаровы ты...

Ты — забіты, следу не пакінуў,
краю ты не паслужыў свайму —
за чужы ў чужой вайне загінуў.
А ці волю ты прынёс яму?

●

Бальніца для воінаў-афганцаў...
Чуў пра іх нямала гromкіх слоў я.
Дактары закліканы змагацца,
каб вярнуць параненым здароўе.

Каб жа ныць там раны перасталі,
не будзілі страшнай ціхай ноччу!
Каб жа там
скалечаным вярталі
згубленыя ногі,
рукі,
вочы!

●

— А колькі плацяць за радок?
— Баюся вас не задаволіць:
камусьці —
за радок — гадок,
плацілі часта і паболей.

Плацілі шчодра
Калымой,
тайгой,
Таймырам,
Салаўкамі...
Хто не схіляўся, божа мой,
звышпільна — тайна — над радкамі!

Чыталі зверху ўніз радкі
і знізу ўверх — усяк чыталі,
свае даносчыкі-шпікі
усюды аўтара чакалі.

Данос — і чалавечы лёс
уміг расціснуты пад прэсам.
Па скуры аж ідзе мароз
ад пекла сталінскіх рэпрэсій.

— Ну, гэта ўсё даўно было,
нашто вярэдзіць тыя раны?
— Ой, многа зла пасее зло,
што аніяк не пакарана.

Не кажуць каты — плач, не плач, —
дзе косці знішчаных паэтаў...
Ах, выпадковы мой слухач,
хвалюе вас зусім не гэта.

## *Спіце спакойна...*

Дзе вы, чорныя палкоўнікі?
Як сябе вы пачуваеце?
Пазалазілі пад помнікі,
як героі спачываеце?

Спачывайце — натаміліся:
забівалі і знявечвалі...
Рукі вашы ці адмыліся
ад крыві ад чалавечае?

Спачывайце — замарыліся
акрываўленыя рукі.
Мабыць, вамі ганарыліся
вашы дзеці, вашы ўнукі.

Тут на подзвігі высокія
памянялі ўсе грахі вы, —
спіце, сталінскія лёкаі:
засакрэчаны архівы...

## *Магчымы помнік*

Над абломкамі
помніка Сталіну
я падумаў:
«Вось доля фальшывага твора
мастацтва!»
Мне
Сталіну помнік
інакшы зусім
уявіўся:

на фоне крамлёўскай сцяны
стаіць на каменных фігурках
Варашылава, Кагановіча, Молатава,
Маленкова, Жданава
суровая сутулаватая постаць,
у левай руцэ — серп і молат,
а ўказальным пальцам правай рукі,
падобным на пісталетнае дула,
працінае прастору...
І чырвоным па чорнаму — словы:
Іосіф Крывавы (Сталін),
генералісімус вайны рэпрэсіўнай,
якую ён вёў з бяспраўным,
безабаронным народам
з канца дваццатых да пачатку
пяцідзесятых
гадоў дваццатага стагоддзя.
Памёр,
на жаль, сваёй смерцю...
Успрымайце мой белы верш пра чорнага правадыра як праект магчымага помніка.

---

Ганарар за гэтую публікацыю аўтар просіць пералічыць на рахунак «Мартыралога Беларусі» — на стварэнне помніка — ахвярам сталінскага генацыду, у Курапатах.

**НАШЫ ГОСЦІ**



# ПРА ГЭТА І ПІШУ...

На гэты раз член рэдкалегіі нашага штотыднёвіка Барыс Сачанка завітаў да нас у рэдакцыю не адзін, а з маладым чалавекам. Пазнаёміліся: польскі журналіст, палітычны аглядальнік ПАП і супрацоўнік рэдакцыі газеты «Палітыка» Вальдэмар Сівіньскі. З Барысам Іванавічам яго лучыць чарнобыльская тэма.

Як далучыўся да яе? Госць тлумачыць:

— Адразу ж, як даведаўся пра аварыю, зразумеў — гэтая падзея «адгукнецца» яшчэ ва ўсім свеце, акажа ўплыў на жыццё ўсіх людзей планеты. Зразумеў і другое: праўда і толькі праўда пра Чарнобыль можа пайсці на карысць. Узяў камандзіроўку ў зону—у першыя ж дні пасля аварыі, быў першым замежным журналістам, якога дапусцілі туды.

Перад гэтым В. Сівіньскі сустрэўся ў рэдакцыі газеты «Правда» з Уладзімірам Губаравым. Той і параіў абавязкова расказаць пра ўбачанае. І не проста занатаваць уражанні, а—прапусціць іх праз сэрца. Паступова выкрышталізоўвалася задума кнігі пра Чарнобыль, пра тое, якую бяду прынёс чалавецтву. Яна мае назву «Чарнобыль: ад катастрофы да працэсу».

— Асэнсоўваючы тое, што здарылася,—расказвае госць, — я ўяўляў сябе на месцы людзей, якія мелі самае непасрэднае дачыненне да ўсяго гэтага. І тых, хто рабіў усё магчымае, каб як мага хутчэй ліквідаваць вынікі аварыі, і тых, хто сваёй абыякавасцю—будзем глядзець праўдзе ў вочы—па сутнасці гэтую аварыю падштурхоўваў. Спачатку збіраць факты было не так і проста. Калі памятаеце, пэўны час афіцыйныя паведамленні былі вельмі скупыя і прыхарошаныя: маўляў, не так усё і страшна. Але Чарнобыль так проста ад сябе не адпускае. Чым больш праўды пра падзеі даведваўся сам, тым больш хацелася данесці яе да іншых.

Кніжка выйшла ў выдавецтве «Іскры». Была прыхільна сустрэта. Прыемна і тое, што афіцыйнае прадстаўленне яе адбылося ў польскім консульстве ў Кіеве.

— Ваш цяперашні прыезд да нас таксама звязаны з творчымі планамі?

— Хачу дапоўніць кнігу, дадаць да яе яшчэ два-тры аркушы. Хачу зірнуць на чарнобыльскую праблему ўжо з вышыні сённяшняга дня. Не мне вам казаць, якое небяспечнае становішча склалася сёння ў многіх раёнах Беларусі, у тым ліку ў Магілёўскай вобласці, пра якую тады, адразу пасля аварыі, ніхто і не ўспамінаў. Цяпер жа распрацавана цэлая праграма.

Паездзіў па вашай рэспубліцы, у Мінску сустракаўся з вядомымі вучонымі — з Платонавым, Канаплёй... Быў прыняты ў Савеце Міністраў БССР, наведаў Беларускае аддзяленне дзіцячага фонду імя У. І. Леніна. Меў гутаркі і з прадстаўнікамі, як вы кажаце, нефармальных аб'яднанняў. Пераканаўся: толькі сумеснымі намаганнямі можна суцішыць боль, які прынёс з сабой Чарнобыль. Пра гэта і пішу ў новых раздзелах кнігі.

**НАШ КАР.**

# УЧОРА, СЁННЯ... І ЗАЎТРА ШКОЛЬНЫХ ПАДРУЧНІКАЎ ПА ЛІТАРАТУРЫ

МАГЧЫМА, у мяне дрэнны густ. Магчыма, я наогул кепска разбіраюся ў паэзіі. Але і сёння, і восем гадоў назад, калі яшчэ вучыўся ў школе, мне здавалася, што купалаўскі верш «...О так! Я—пралетар!..» па сіле ўздзеяння значна пераўзыходзіць ягоны ж верш «Арлянятам». І тады, восем гадоў назад, і зараз, прабачце за някемлівасць, я ніяк не магу да канца зразумець: чаму на ўроку роднай літаратуры я павінен быў усё ж вучыць на памяць верш «Арлянятам» і вывучаць паэму «Над ракою Арэсай» — вымушаную ўступку сацрэалізму? Скажаце: ну-у, калі прыслухоўвацца да жаданняў кожнага вучня, ніколі школьную праграму не складзеш. Хай сабе. Але чаму мільёны дзяцей павінны чытаць і завучваць тое, што хочацца аднаму-двум дарослым, чые прозвішчы стаяць на вокладках падручнікаў, ды яшчэ некалькім адказным таварышам, якія гэтыя падручнікі зацвярджаюць? Ці не лепш (не лагічней, не разумней) было б дазволіць школьніку самому выбіраць, калі не што чытаць з таго ж Янкі Купалы ці Якуба Коласа, то хаця б што вучыць на памяць. А раптам не ўсе кінуліся б шукаць самыя кароценькія вершы нашых песняроў. Глядзіш, і ў зборнікі іхнія хто-небудзь зазірнуў бы (а мо і ў зборы твораў), і не праграмныя вершы прачытаў бы...

Дарэчы, вы ніколі не задумваліся, чаму, напрыклад, у 9-м класе сярэдняй школы купалаўскае «Раскіданае гняздо» вывучаецца дэталёва, а «Паўлінка» даецца толькі для пазакласнага чытання? Чаму ў тым жа 9-м класе праходзяць творы Цёткі «Вера беларуса», «Суседзям у няволі», «Мора», «Прысяга над крывавымі разорамі» і не разглядаюць яе лірычную, задушэўную «Касю»? Чаму ў школе нічога не гавораць пра вершы Цёткі «На магіле», «З чужыны», «Грайка», «На чужой староццы»?

Справа тут наўрад ці ў мастацкіх вартасцях твораў. І месца для іх пры жаданні знайшлося б. Павінна б было знайсціся, калі ўлічыць, што ўсе творы Цёткі, якія вывучаюцца ў школе,—адной тэматыкі.

Прычына такога адбору — тая ж, дзякуючы якой са школьнай праграмы нядаўна выключаны вершы «Камуністы» А. Куляшова і «Цар-дуб» П. Броўкі. Памятаеце?

**Стаіць цар-дуб**
**І ў цішыні**
**Глядзіць на сонцаўсходзе,**
**Што ён сягоння ў камунізм**
**З прыгонных дзён ўваходзіць.**

Прычына, як бачым, зусім не літаратурная, а **ідэалагічная.** І тычыцца гэта, вядома ж, не толькі Цёткі і Купалы. Давайце паглядзім разам. Як вы думаеце, з якога твора пачынаецца ў падручніку для пятага класа раздзел «Казкі»? «Салдат і смерць»? Не. «Іван Іванавіч купецкі сын»? Ну што вы! З казкі «Ленінская праўда». Ну, а якія беларускія народныя песні дарэвалюцыйнага часу ўключаны ў падручнік для сёмага класа? Тут і думаць не трэба: «Да ў нашага пана...» і «Батрацкая». Ну, а песні савецкага часу? Тут ужо цяжэй. Але, прытрымліваючыся таго ж **ідэалагічнага** прынцыпу, можна ўспомніць, што ў нас ёсць «Песня пра Леніна», «Песня пра Заслонава». А далей зусім лёгка. Падручнік для адзінаццатага класа — творы Аркадзя Куляшова: «Мая Бесядзь», «Над брацкай магілай»; творы Максіма Танка: «Песня кулікоў», «На пероне», «Рукі маці», «Перапіска з зямлёю».

Давайце глядзець у дзесятым класе. Творы Петруся Броўкі, напрыклад: «Рана», «Кастусь Каліноўскі», «Голас сэрца», «Пахне чабор». Чаму «Пахне чабор»? Дык жа час у вершы—савецкі. Гэта ж мы да рэвалюцыі не ўмелі радавацца каханню. І ўсё ў нас было кепска. А зараз у нас усё добра. І ўсім добра. І вам, і мне, і Панчанку: «Не люблю я змрочных фарбаў, не люблю я шэрых тонаў»—вось правіла, якога паэт няўхільна трымаецца» (З падручніка Р. Шкрабы). Аказваецца, можна і такім чынам выхоўваць школьнікаў у духу патрыятызму і савецкага інтэрнацыяналізму: выдаваць **жаданне** народнага паэта за **правіла**, якога ён «няўхільна трымаецца». А яшчэ можна выхоўваць і на не зусім дасканалых у мастацкіх адносінах творах:

**Быльняговыя межы агорклі,—**
**Іншай радасці прагну цяпер:**
**Расцвітай, Беларусь мая, зоркай**
**На сузорных шляхах СССР!**
**(П. Глебка. «Жаданне». 9 кл.)**

Такой бяды, што вучні ўвесь час спатыкаюцца пры чытанні аб гэтае «сэсэсэр»! Затое ў ідэйных адносінах тут усё на месцы.

Праўда, ідэалогія—рэч складаная, бывае, глядзіш, усё быццам і правільна робіш, дабра жадаеш, а тут табе—р-раз— перастараўся. Вось як у выпадку з тым жа «Царом-дубам» П. Броўкі. Хоць і быў дуб царом, і слыве заўсёды мудрым, але каб вось так, вокамгненна ўвайсці ў камунізм, — тут ён даў маху.

Хоць яно лепш перастарацца, чым крышку ідэйна не дацягнуць. Бо за перастаранне галовы не здымаюць, з працы не звальняюць. Бываюць, канешне, ад гэтага і непрыемнасці, і не столькі непрыемнасці, колькі лішнія клопаты. Бо час ідзе, адзін гістарычны з'езд абвяргае рашэнні другога—не менш гістарычнага. Асобныя творы ці асобныя строфы, радкі ў іх могуць неяк раптам састарэць. Так здарылася з паэмай П. Глебкі «Мужнасць». Што рабіць у такіх выпадках?

**Над снягамі,**
**Над горам,**
**Над жалем,**
**Над законамі смерці й жыцця**
**Падымаецца ленінец Сталін,**
**Узнімаючы ленінскі сцяг.**

Ат, рашылі некалі ў міністэрстве, падумаеш, нейкія дзве страфы... І выкінулі. Ды тут новая бяда—перабудова. І ўжо неяк не да месца гучыць увесь апошні раздзел паэмы, пра які ў падручніку для 9-га класа (аўтар Р. Шкраба) чытаем наступнае: «У камуністаў многа неадкладных спраў. Але найгалоўная з іх — праверыць сваю згуртаванасць вакол ленінскага вучэння, паглядзець, што зроблена за дзесяць гадоў пасля яго смерці. Здабыткі радуюць. Яшчэ больш умацоўваецца адзінства партыі. Расце прамысловасць і сельская гаспадарка. Мацнее абарона краіны. Выдатныя вынікі дае саюз рабочых і сялян».

Цікава, што цяпер вырашаць адказныя за школьную праграму таварышы: выкінуць цэлы раздзел? Усю паэму?

Наогул, ленінскай тэме на ўроках беларускай літаратуры ўдзяляецца такая вялікая ўвага, што, здаецца, варта напісаць толькі адзін верш ці кароценькае апавяданне пра Леніна, і месца твайму імені на старонках падручніка ўжо забяспечана. І чым больш вядомае тваё імя, тым менш можна клапаціцца пра якасць твора. У падручніках і хрэстаматыях, дарэчы, ленінская тэма традыцыйна выдзяляецца ў цэлы раздзел. Усё гэта нечым нагадвае тую ў нас распаўсюджаную з'яву, калі ў гонар Ільіча называюць не толькі навучальныя ўстановы ці цэнтральныя плошчы, але і адсталыя калгасы, і які-небудзь лікёра-гарэлачны завод і макаронную фабрыку (напрыклад, Барысаўскую)...

Ёсць у празмернай ідэалагізацыі школьнай праграмы яшчэ адзін бок. І такі ж непрыглядны. Да сённяшняга дня школьнік не ведае, што разам з Янкам Купалам і Якуба Коласам у нас ёсць такі класік, як Максім Гарэцкі. Прозвішча яго вучні сустракаюць адзін толькі раз, у падручніку для 9-га класа. Дый то—так, між іншым. У пераліку імён.

Нічога не ведае школьнік і пра Алеся Гаруна, Андрэя Мрыя. Затое ён упэўнены, што «з першых сваіх крокаў савецкая літаратура адчула клопаты Камуністычнай партыі, якая разглядае мастацкае слова як магутны сродак выхавання новага чалавека, пераўтварэння жыцця на новых рэвалюцыйных пачатках, яго ідэйную зброю ў барацьбе з сіламі старога свету»; што «сама рэчаіснасць, новы савецкі дзяржаўны лад вывелі на старонкі маладой савецкай літаратуры героя, якога яшчэ не ведала ні адна літаратура свету. Пісьменнікі малявалі вобразы ўдзельнікаў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны... падтрымлівалі новыя рысы ў штодзённым побыце, адстойвалі савецкі лад ад спроб недабітых ворагаў падарваць яго».

І яшчэ адна асаблівасць: як мы адных пісьменнікаў стараемся «схаваць» ад школьніка, гэтак другіх імкнёмся як мага больш... не, не расхвальваць. Прыхарошваць. Абагаўляць. Зусім спакойна можна выкрасліць з іх біяграфій факты, якія не вельмі глядзяцца на фоне нашых «аптымістычных і жыццесцвярджальных ідэй». Можна нагаварыць пра нашых класікаў столькі напышлівых слоў, што потым страшна брацца за іх творы. Хоць не думаю, што вучні пачалі горш запамінаць вершы Ясеніна, калі ў падручніку па рускай савецкай літаратуры для 11-га класа прачыталі наступнае: «У пачатку 20-х гадоў, калі ў жыццё праводзілася новая эканамічная палітыка (нэп), у творчасці Ясеніна ўзніклі песімістычныя матывы, што было абумоўлена не толькі асабістымі, але і аб'ектыўнымі прычынамі», што «паэт не можа вызначыць свайго месца ў жыцці, пакутуе ад усведамлення душэўнай раздвоенасці». Цяжка таксама паверыць, што вучні раптам расчараваліся ў сваіх любімых паэтах, калі ў тым жа падручніку прачыталі: «трывожны разлад з сучаснасцю перажылі ў сярэдзіне 20-х гадоў» М. Асееў, М. Святлоў, Э. Багрыцкі....

Бач ты, разышоўся, падумае хто-небудзь з чытачоў, дасведчаных у гэтай справе. Чаго ён хоча, падручнікі ж нашы пісаліся яшчэ «да таго». У 1989 годзе некаторыя з іх толькі перавыдаваліся. Не ведае ён пра гэта, ці што?! Ведаю. Але мяне непакоіць не тое, калі яны пісаліся, а тое, што па іх **сёння** вучацца дзеці і невядома колькі яшчэ будуць вучыцца. Гэта

## Кнігапіс



У. НЯКЛЯЕЎ. Веда. Кніга паэзіі. Пераклад з беларускай. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.

**Паэзія Уладзіміра Някляева—сплаў публіцыстычнасці і лірычнасці. Лірычны герой яе адчувае сябе далучаным да ўсяго, што адбываецца ў свеце. Ён працуе, любіць, ненавідзіць. Творы аб'яднаны ў раздзелах «Зорна Палын», «Ведаючы горкую веду», «Ініцыялы рэўнасці», «Паветраны палёт», а на рускую мову іх пераклалі Л. Гембіцкая, М. Шэлехаў, П. Кошаль, Н. Кіслік і іншыя.**

## *Чытаючы часопісы*

# НАПІСАНА ЗА КРАТАМІ

Пра гэтыя творы ў невялікай прадмове да іх Яўген Лецка піша: «Перад вамі, шаноўныя чытачы, два няскончаныя Калюгавы творы, напісаныя ў неверагодных умовах — у мінскай турме і на выгнанні ў Ірбіце. Як іх здолеў празаік стварыць — асабіста мяне гэта здзіўляе і захапляе, калі ўлічыць тое, што каты надзвычай пільна сачылі за парушэннямі турэмнага і лагернага рэжыму. У такіх умовах не тое, што пісаць, але і выжыць было нялёгка і няпроста».

Творы гэтыя — незавершаныя аповесці Лукаша Калюгі «Дзе косці млеюць» і «Утрапенне» — апублікавала ў сваёй апошняй за мінулы год кніжцы «Маладосць». Яны — сведчанне незвычайнай мужнасці пісьменніка, які, занатоўваючы свае самыя запаветныя думкі «на ашмотках паперы, звычайных канцылярскіх квітанцыях», верыў, «што слова яго ўрэшце дойдзе да людзей і адгукнецца ў іх душах, што разняволены чалавек скіне з сябе абрыдлыя кайданы і свабодна зажыве на роднай зямлі...».

Абвінавачаны ў розных нацдэмаўскіх грахах пісьменнік не толькі не скарыўся, а яшчэ і асмеліўся засумнявацца, ці так, як патрэбна, адбывалася ўсё ў рэвалюцыйна абноўленым свеце.

Не зламаўся Л. Калюга за кратамі. Не мог зламацца, бо ў цяжкія, тужлівыя гадзіны і дні жылі ў ім думкі аб лёсе бацькоўскай зямлі, задумваўся ён над тым, што сёння называем мы чалавечай непрыкаянасцю, духоўным і нацыянальным нігілізмам, манкуртствам.

Пачыналася ж усё ў дваццатыя гады, узмацнялася ў трыццатыя. Забываліся народныя, традыцыйныя святы, адыходзілі ў нябыт, выкрасленыя пастановамі і цыркулярамі з побыту, каляды, у выніку: «Як пустадомкі, туляемся каля чужых халодных вуглоў. Ды калі й свой па ордэры завядзецца, у ім, не сагрэтым пакаленнямі, густа і няўтульна, як у ваўкаўні».

Дзеянне аповесці «Дзе косці млеюць» адбываецца ў мястэчку Грукацічы, па ўсім відаць, і не такім малым, бо ёсць у ім гарадское вучылішча, бібліятэка, свая інтэлігенцыя. Робяцца першыя захады да беларусізацыі. Аднак добрыя намеры часам заставаліся толькі намерамі. Л. Калюга, схільны да сатырычнага ўспрымання рэчаіснасці (элементы сатыры, гумару заўважаюцца і ў яго ранейшых творах), не хавае свайго стаўлення да тых, хто, актывізаваўшы дзейнасць на нацыянальнай хвалі, на самай справе заставаўся глухім, абыякавым да надзённых праблем.

Тыповая прадстаўніца свайго часу настаўніца М. В.: «У бацькі было за што даць ёй добрую асвету», «няблага бралася за замежныя мовы». Бяда толькі, што часу на родную мову ў М. В. не засталося. І смешна, і балюча чытаць, як яна гаворыць дзецям: «Зараз мы пачнём вучыць новую нашу родную крэўскую мову».

Але ці толькі адной М. В. ва ўсім віна? Той жа загадчык валаснй бібліятэкі не ад добрага жыцця раздае вучням кнігі. За гэта яны прыносяць яму сёе-тое з харчоў...

Зразумела, маючы пад рукой толькі фрагменты твора, цяжка гаварыць, як бы аўтар ажыццявіў сваю мастакоўскую задуму. Адно бачна: Л. Калюга меў намер даць у гэтай аповесці свайго роду зрэз жыцця тагачаснай культурнай інтэлігенцыі, паказаўшы, у якіх умовах праходзіла беларусізацыя. Канечне, іх цяплічнымі не назавеш, але знаходзіліся здаровыя нацыянальныя сілы, былі тыя, хто не задавальняўся днём сённяшнім, а задумваўся і над будучыняй.

Каларытным атрымаўся вобраз інспектара райана Вірута: «Ён быў з таго пакалення нашае інтэлігенцыі, найбольш чулыя прадстаўнікі якога яшчэ плакалі, стрэўшы «крэўскаю моваю друкаваную кнігу». Любоў да свайго, роднага пачалася ў Вірута з той часіны, калі ён, яшчэ пад час навучання ў школе, не паверыў, што Беларусь такая бедная, забітая, няшчасная, якой успрымалі яе і падавалі людзі, пазбаўленыя нацыянальных карэнняў: «Дзяўблі мне ў школе, што бедная нязграбная наша краіна. Не, думаю, не можа гэтага быць. Сам на свае вочы пагляджу, адно толькі каб узбіцца на свой хлеб. І цяпер я ведаю, што няма лепшага краю за наш».

Любоў да бацькаўшчыны перадаў Вірута дачцэ. Магда адразу знаходзіць агульную мову з вучнямі, бо размаўляе з імі проста, па-свойску, шукаючы дарогу да іхніх сэрцаў, спакутаваных па шчырасці, чысціні. Не баіцца выказваць і «крамольныя» думкі, бо ведае: нельга гісторыю папраўляць, прыхарошваць.

Дзякуючы Віруту святкуюць настаўнікі Купалле. Падобнага ў Грукацічах даўно не было: «з кастрамі, з вянкамі не спраўлялі Купалля, якое сабе справілі настаўнікі, даўніну паганяючы».

За кожным Калюгавым радком — быццам усплёскі нацыянальных традыцый. Усё дыхае, прасякнута нейкай непаўторна-

па-першае. Па-другое, я ўважліва прачытаў праграмы па беларускай літаратуры для сярэдняй школы, якія пісаліся зусім нядаўна, у наш час—час новага мыслення. Здавалася б, яны складаюцца для таго, каб дапамагчы настаўнікам распланаваць час: колькі гадзін выдзеліць на адну тэму, што праходзіць на занятках, а што пакінуць на пазакласнае чытанне і г. д. Яшчэ для чаго? Напэўна, каб дапамагчы настаўнікам разабрацца, на што звярнуць асаблівую ўвагу пры вывучэнні той ці іншай тэмы, як лепш аналізаваць творы, вучыць дзяцей адрозніваць таленавітае ад пасрэднага? Аж не. Пра гэта ў праграмках ні слова. Затое ў іх можам знайсці такую «карысную» інфармацыю: «Сістэматычнае вывучэнне літаратуры ўзбагачае духоўны свет вучняў, выхоўвае крытычныя адносіны да буржуазнай ідэалогіі, да перажыткаў мінулага, адыгрывае вялікую ролю ў выхаванні камуністычнай перакананасці вучняў, у выпрацоўцы правільных ідэйна-эстэтычных крытэрыяў ацэнкі твораў літаратуры і мастацтва, **класавага падыходу да з'яў мастацкай літаратуры».** (падкрэслена мной.—**А. Б.**). Чытаем далей: «У працэсе вывучэння літаратуры важна звярнуць асаблівую ўвагу на творы савецкіх пісьменнікаў, у якіх увасоблены вобразы рэвалюцыйных барацьбітоў, баявыя і працоўныя подзвігі савецкага народа». Атрымліваецца, што творы, якія выхоўваюць у дзяцей любоў да прыроды, абуджаюць цікавасць да сваёй далёкай мінуўшчыны — другасныя? Ва ўсялякім разе, пра іх тут няма ні слова. Але, відаць, у Міністэрстве народнай адукацыі палічылі, што гэтай «рэкамендацыі» для правільнага ідэйнага выхавання школьнікаў мала, і таму паспяшаліся дадаць: «Важнейшая задача настаўніка—даступна і глыбока раскрыць вучням асноватворчыя ідэі і палажэнні артыкулаў У. І. Леніна, дакументаў партыі па пытаннях літаратуры і мастацтва». І на ўсякі выпадак перасцераглі: «Савецкая літаратура і мастацтва, прасякнутыя аптымізмам і жыццесцвярджальнымі камуністычнымі ідэямі, адыгрываюць вялікую ідэйна-выхаваўчую ролю, развіваюць у савецкім чалавеку якасці будаўніка новага свету». Наіўна спадзявацца, што разам з такімі «рэкамендацыямі» міністэрства ўключыць у школьную праграму (хаця б для пазакласнага чытання!) творы, якія да нядаўняга часу былі недаступныя шырокаму колу чытачоў. Ці хоць бы палічыць неабходным успамінаць пра іх на ўроках літаратуры. Так, на жаль, няма ў новай праграме ні Гарэцкага, ні Гаруна, ні Мрыя...

Безумоўна, сярод мноства задач, якія стаяць перад выкладчыкам літаратуры, задача **выхавання** з'яўляецца выключна важнай. І найперш — маральнага, эстэтычнага выхавання. Але нельга ператвараць падручнікі па літаратуры ў прапагандысцкія дапаможнікі. Нельга ігнараваць саму прыроду мастацтва. Недаравальна, дбаючы пра высокую ідэйнасць твора, не ўлічваць яго мастацкі ўзровень. У нас жа, як гэта ні парадаксальна, мастацкасць нярэдка вызначаецца ідэйнасцю.

Давайце яшчэ раз перагорнем падручнікі і паспрабуем адказаць хаця б самі сабе: уключаючы твор у школьную праграму, ці задумваўся хто ўсур'ёз, наколькі гэта будзе цікава дзецям? І чаму творы аднаго з самых папулярных і любімых у нас пісьменнікаў Уладзіміра Караткевіча зусім не разглядаюцца ні ў 6-м, ні ў 7-м, ні ў 10-м класе, а ў 8-м і 9-м толькі на пазакласным чытанні?

Зараз у рэспубліцы праходзіць аб'яўлены Міністэрствам народнай адукацыі конкурс на лепшы падручнік па беларускай літаратуры для старэйшых класаў. Што і казаць, справа патрэбная і даўно наспелая. Але ўсё ж нешта замінае радавацца і пляскаць у ладкі. І недзе ў глыбіні душы (ну што ты тут будзеш рабіць!) варушыцца шкадаванне: чаму гэты конкурс праходзіць так ціха? Няўжо адказныя таварышы не зацікаўлены, каб у ім прыняло ўдзел як мага больш людзей, з розных рэгіёнаў рэспублікі? Няўжо яны так і не запросяць зацікаўленых асоб выказаць праз друк свае меркаванні наконт школьнай праграмы, новых падручнікаў? А, можа, ім і так няблага, без абмеркавання?..

**Алесь БАДАК.**

---

сцю і свежасцю. Нават не верыцца, што пісалася гэта за турэмнымі кратамі, калі цяжкія думкі не маглі не апаноўваць пісьменніка. Ды, дбаючы аб уласным лёсе, ён усё ж куды больш думаў пра лёс радзімы, народа, бацькаўшчыны.

Гэтым роздумам напоўнены і раздзелы з другой аповесці «Утрапенне». Сюжэт твора ў многім традыцыйны. Пісьменнік, як і яго шматлікія папярэднікі, расказвае аб уваходзінах у вялікі свет жыцця хлапчука, а потым падлетка. Усё, што адбываецца з Зэнкам, у многім знаёма. Пакрысе выпростваецца ён душой, ператвараючыся ў асобу. Аднак ёсць і адрознасць. Маленства і юнацтва героя Л. Калюгі прыпала якраз на дні «трыумфальнага шэсця рэвалюцыі». Самі падзеі прыспешваюць працэс сталення, але адначасова ў яго ўносяць і свае пэўныя карэктывы.

Па ўсім відаць, Зэнка, пры пэўнай яго пасіўнасці, усё ж змог бы захаваць сваю індывідуальнасць. Меркаваць так ёсць падставы. У жыцці персанажа наступіў момант, калі ён упершыню па-сапраўднаму задумаўся над сваімі вытокамі. Калі раней, не надта разважаючы, ён забіраў з панскага палаца тое, што засталося ад іншых, больш увішных: «прыйшліся яму самыя абіркі: старадаўнія нейкія акты, у якіх не толькі цацак не было, але яшчэ й на паперы з с конку на грубіню былі тыя акты надрукаваны — на папяросу й то не варт», дык цяпер, праз шмат гадоў, ён неяк кінуў позірк на сцяну, даўно абклееную тымі актамі, прачытаў напісанае.

Прачытаў і быццам у Зэнкавай душы нешта перавярнулася: «Ягоня сэнс усё як бы муляў». Не стрымаўся Зэнка, аднойчы загаварыў з бацькам. Ён і сам пытанні задаваў і адначасова шукаў на іх адказ. Найперш для самога сябе, бо ўжо не мог жыць так, як жыў дагэтуль. Нечага не хапала яму ў штодзённасці, не ставала пэўнасці: «Няўжо без гэтага нельга абысціся?.. Я вось ляжу й думаю... Няма паноў. І толькі тае бяды! І не трэба. Але няўжо канечне, каб і нашае з вамі адметнасці не было? Я не веру, каб без гэтага нельга было абысціся. Баюся, што не па старасці гэта, калі шкода, шкода, ды пара ўжо, а смерць у маладым яшчэ вяку, як сама што ўбіралася ў сілу — толькі б красавацца, а тут раптам такая выпадковасць. Баюся, што праз гэта шмат прыгожага і нязнанага страціць свет».

Каб адметнасць была... Каб не прыйшла смерць у маладым яшчэ вяку для ўсяго нацыянальнага, беларускага... Гэта не толькі думкі Калюгавага героя, а і думкі самога аўтара. Знаходзячыся за кратамі, а потым у высылцы, з падрэзанымі крыллямі, пісьменнік не скарыўся. Ён нічога не баяўся, бо верыў, што праўда была, ёсць і будзе на ягоным баку.

Смелыя, аптымістычныя творы. Творы з-за кратаў, але творы, якія напісаны з адзінай думкай аб тым, каб ніколі не трапіла за краты народная душа.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

*Крытыка, бібліяграфія*

# НАБЛІЖЭННЕ ВЫШЫНІ

**Алесь Каско. Набліжэнне. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.**

У кожнага паэта свая лінія духоўнага напружання, свая лірычная энергія радка, якую ў многім прадвызначае і сілкуе сам час, гісторыя, жыццё.

Аўтар кніжкі «Скразная лінія» мроіць і сцвярджае вясну духоўнай роднасці чалавека з роднай зямлёй, матчыным словам, светам прыгажосці. Жаданне «вераю і прагай служыць Радзіме і Красе», пра якое як пра эстэтычнае крэда А. Каско кажа ў новым зборніку «Набліжэнне», з'явілася не раптоўна і выспела ў душы паэта як глыбока ўнутраная неабходнасць. Таму лірычны герой А. Каско хоча адчуваць сябе сёння «ў злітным, шчыльным ланцугу» тых, хто менавіта ўладкоўвае жыццё па законах маральнай чысціні і чалавечнасці, змагаецца за высокі змест і сэнс нацыянальна-патрыятычнага, гістарычнага і духоўна-экалагічнага быцця беларуса. Паэт рады і ўдзячны, што

**Ёсць, дзякуй богу, і цяпер**
**каму павесці за сабою**
**і лініяй перадавою**
**трымаць аголены свой нерв.**

**Яно вядома: не ў вайну,**
**тут іншы фронт...**
**А ўсё ж ці проста**
**ўставаць і крочыць поўным**
**ростам,**
**браць і адстойваць вышыню?**

Працытаваныя радкі прысвечаны У. Калесніку — чалавеку, якога і ў літаратуры, і на пуцявінах грамадска-культурнага жыцця можна назваць сумленным і надзейным салдатам. «Служыць Радзіме і Красе» — гэты грамадзянскі ідэал настаўніка паэт А. Каско вымаўляе са сваіх вуснаў з прачулай асэнсаванасцю, з духоўна-эстэтычнай выверанасцю пачуцця.

Набліжэнне ж любой вышыні — справа нялёгкая: і вышыні ўласна мастацкай, эстэтычнай, і вышыні сённяшняга светаразумення, і вышыні ў пранікненні да мінулага радзімы...

Раздзел «Блізкія зарніцы» — стрыжань новай кніжкі. Тут асабліва адчуваецца раскаванасць паэтавага мыслення ў часе: свежа б'е струмень гісторыі, а адраджэнцкае святло сённяшняга дня праецыруецца на будучыню. А. Каско раскрывае і асэнсоўвае свет з аптымізмам і гістарычным, і нацыянальным. Бо, па яго перакананню, высакародныя задумы і духоўныя ідэалы немагчыма спраўдзіць без апантанай, глыбокай веры ў сапраўды гарманічнае перараджэнне быцця чалавека, увогуле народа. Паэт верыць у жывую памяць беларусаў, у росквіт роднай мовы, культуры. Свабодны подых радкоў у верлібры «Сон пра 2085 год» якраз передае нязмушаную ўяву сапраўды нацыянальна развітога асяроддзя напрыканцы наступнага стагоддзя. Клічная інтанацыя верша «За анкетнымі радкамі» выяўляе настрой палкага сцвярджэння духоўнай неўвядальнасці народа, бо

**З гэткім лёсам — не збяднець:**
**час глыбокі,**
**колас — повен, —**
**і валошкай яго мове**
**ў разнатраўі моў квітнець!**

А што лёс у беларусаў сапраўды з унікальным гістарычным мінулым, мы ўжо можам меркаваць хаця б па творчасці У. Караткевіча ці па працах нястомнага рупліўца на ніве роднай гісторыі М. Ермаловіча. У нашы дні паэзія таксама імкнецца глянуць на гісторыю Беларусі шырэй, з засяроджанай роздумнасцю. Радуе, што ў вершах А. Каско «Беларускія гусары», «1862. Слова Каліноўскага», «Постаць» погляд на беларускае мінулае не павярхоўна-сузіральны, як надараецца ў творах маладых, а вызначаецца важкасцю эмацыянальнага перажывання, уласнай асэнсавальнай глыбінёй. Ці возьмем, напрыклад, верш «Паўлюк Багрым». Праўда, чамусьці адразу згадваецца верш з такой назвай ва У. Караткевіча і, у прыватнасці, прыходзяць на ўспамін радкі: «Беларусь, прачынайся! Я цябе абуджаю! Ты павінна прачнуцца...» Ды А. Каско, несумненна, удаецца выказаць вельмі асабістае разуменне подзвігу песняра, які ў XIX стагоддзі склаў песню болю і праўды пра свой народ. У Багрымавай песні сённяшні паэт бачыць узор сапраўднага патрыятызму, сэнс творчага гарэння. «Хіба не марыць кожны раз паэт аб гэтакай — адной і неўміручай?» — запытальна-ўзрушана гучыць голас унутранага «я» А. Каско. Хоць дыяпазон ахопу паэтам падзей і імён мінулага, можа, і не надта аб'ёмны і разнастайны, як таго хацелася б, але, думаецца, менавіта ён адчувальна вызначае духоўна-адраджэнцкі тон гучання новай кніжкі.

Сучаснасць жа наадварот паэт здолеў высвеціць у шырыні праяў чалавечага жыцця, шчодрасці і шчырасці думак і адчуванняў. Сказанае найперш тычыцца такіх вершаў паэта, як «Сумленнае слова», «Госць мой, вецер», «Фальклорны канцэрт», «Белая палата». Верш «Гамлет 70-х» — усяго з чатырох радкоў, але ў ім дакладна схоплены грамадзянскі і мастакоўскі сэнс выбару, што неадступна, востра паўставаў і перад паэтамі ў гады нараджэння квяцістага пустазвонства, спекулятыўнага пляцення «славес». Мастак, безумоўна, найперш абавязаны слухаць душу сваю, сэрца, сумленне:

**Быць сучасным — ці ж азначае**
**безаглядна свой час**
**сцвярджаць?**
**З двух адно: пакрычаць**
**з адчаем**
**ці пакутліва прамаўчаць...**

А іншай альтэрнатыўнасці, як лічыць паэт, няма. Бо паэзія нясе выздараўленне чалавечай душы, яна можа па-сапраўднаму ўзбагаціць асобу. Як зямля, так і ўнутраны свет людзей павінен прарастаць каласамі і кветкамі прыгажосці, дабрыні, асвяжацца подыхам вясны:

**Можа, руху аднаму**
**і даюцца сэнс і выйсце,**
**і пакутаваць таму,**
**хто шукае іншых ісцін.**
**Хай міне душу застой —**
**на дарогу загадаю...**
**Заўтра восеньскі настрой**
**па-вясноваму згадаю.**

Роздум пра чысціню і маральную каштоўнасць паэтычнага слова, як здаецца, вельмі натуральны для А. Каско, бо ён лірычна адкрыты, імкнецца судакрануцца з самымі блізкімі і балючымі момантамі ісціны, праўды. «Страшна мне ўявіць, што анямее, апусцее сэрца», — гаворыць паэт, знаходзячы шлях і да самапазнання, і словы для крытычнай самаацэнкі. Часам ён проста жартаўліва-іранічны, дасціпны на гумар (верш «Мінскім сябрам»). Але, бывае, збіваецца на дробязнае і агульнавядомае. Зусім не адкрыццём гучыць прызнанне: «Я ўведаў: сэнс — на вастры ляза...» Прыкметная абцяжаранасць і зададзенасць думкі адчуваецца ў радках верша «Калі б...»: «Мой поўнаўладны век, які я і на два не прамяняю».

Не варта, бадай, было паэту ў новы зборнік уключаць вершы «Еднасць» з папярэдняй кніжкі, у якой ён мае назву «Адзінства». А. Каско ў гэтым творы, на жаль, не стае сапраўды балявога напружання інтанацыі, а яшчэ бракуе зрокавай псіхалагічнай матываванасці вобраза. Хоча, напрыклад, паэт выказаць балючы неспакой за прыроду, але робіць гэта не лепшым чынам: «Я часцінка зямлі, і таму мне балюча...», «Гэта мой востры боль...» І далей:

**Мой дакорлівы позірк**
**вы сустрэнеце ў лесе**
**ў вочках белай бярозы:**
**апусціце**
**сякеру!..**
**Асцярожна трымае**
**на далонях дзяўчынка,**
**як маленькае сонца, —**
**спелы яблык чырвоны.**

Дакорлівы позірк героя зусім не стасуецца з ускрыкам ці заклікам бярозы. Ды і апошняя страфа арганічна не прынітоўваецца як да папярэдняга чатырохрадкоўя, так і да першапачатковай балявой настраёвасці верша.

Аднак трэба сказаць, што на экалагічную праблематыку ў паэта нямала добрых вершаў, пачынаючы яшчэ са зборніка «Скразная лінія». Пэўныя мастацкія знаходкі ў рэчышчы тэмы «чалавек і прырода» ёсць і ў новай кніжцы. Такімі бачацца вобразы і параўнанні, у прыватнасці, у вершах «Птушыная міграцыя» і «Атожылкі». Вось як паяднанасць паэтавага «я» з красой прыроды раскрываецца праз запамінальны метафарычны вобраз у іншым творы:

**і быў такі я адзінокі,**
**што не адчуў, калі няўрокам**
**да дрэва пальцы прыраслі.**

Паэт горача выступае за эмацыянальна-экалагічнае абуджэнне чалавечай душы і свету. Бо прырода, як заўважыў яшчэ Гётэ, сама вучыць «видеть братьев во всем: в зверях, кустарнике, траве». У цэлым раздзел «Голас травы» — гэта клопат пра тое, каб жыў «адвечны палескі край» і нараджаўся ў ім чалавек «не чэрствы, і не глухі, а шчыры, як бусел белы...»

А калі наогул казаць пра зборнік «Набліжэнне», то можна сцвярджаць, што яго аўтар поруч з іншымі паэтамі мэтаімкнёна набліжае заўтрашнюю вышыню адраджэнцкага духу.

**Алесь БЕЛЬСКІ.**

**Як мы паведамлялі, у Мінску адбыліся Усесаюзныя курсы вышэйшага выканальніцкага майстэрства «Акадэмія старадаўняй музыкі». Творчыя майстэрні курсаў узначальвалі вядомыя музыканты А. Янчанка (арган, Масква), Б. Добазі (клавесін, Будапешт), В. Шулякоўскі (ансамбль старадаўняй музыкі, Ленінград). Акадэмія сабрала каля сотні маладых выканаўцаў з Масквы, Ленінграда, Адэсы, Ашхабада, Архангельска, Алма-Аты, Вільнюса, Валгаграда, Гомеля, Горкага, Ерэвана, Калінінграда, Клайпеды, Кіева, Краснаярска, Мінска, Наваполацка, Растова, Таліна, Чэлябінска, Уфы, Яраслаўля. У канцэртах фестывалю старадаўняй музыкі, якія праводзіўся ў рамках Акадэміі, выступілі арганіст А. Янчанка, клавесіністы Б. Добазі, Э. Габрыэлян, Н. Дзіжур, камерныя ансамблі.**

# Вучыцца ніколі не позна

НАПЭЎНА, неаднойчы перад музычным сацыёлагам, ды і проста перад музыкантам-прафесіяналам паўставала пытанне, чаму такія папулярныя ў слухачоў танец маленькіх лебедзяў з вядомага балета П. Чайкоўскага або «Паланез Агінськага». Адказ, мабыць, вельмі просты. Ён у феномене «знаёмасці»: любім тое, што добра ведаем.

Дык вось, пад час Усесаюзных курсаў вышэйшага выканальніцкага майстэрства «Акадэмія старадаўняй музыкі» агалілася вельмі вострая праблема нашай музычнай культуры наогул. Як высветлілася, мы, і не толькі аматары, але і ў значнай ступені і прафесіяналы, вельмі дрэнна ведаем велізарны пласт еўрапейскай музычнай культуры, які ахоплівае некалькі стагоддзяў. Я маю на ўвазе музычнае мастацтва барока. Не ведаем аўтэнтычнай выканальніцкай манеры, не ведаем, ды і ўвогуле не маем адпаведнага гэтай манеры, інструментарыя, не чулі нават імёнаў айчынных і сусветных барочных выканаўцаў, ансамбляў гэтага напрамку, нарэшце, не ведаем самой музыкі барока. А не ведаем — значыцца і не любім!

Высветлілася таксама, што ў нашай рэспубліцы фактычна не культывуецца такі напрамак прафесійнага музычнага выканальніцтва, як аўтэнтычнае выкананне музыкі барока, у той час, калі ў краінах Еўропы гэты выканальніцкі напрамак надзвычайна папулярны і адыгрывае прыкметную ролю ў культурным жыцці. Спробы тлумачыць становішча, якое склалася ў рэспубліцы, адсутнасцю гістарычных каранёў і традыцый,—няўдалыя, ды і няпэўныя па сутнасці, бо даследаванні апошніх часоў сведчаць пра тое, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі існавала самабытная барочная музычная культура. Вядомы цяпер усім так званы «Полацкі сшытак»—гэта цудоўны помнік беларускага музычнага барока. Ужо зроблены цікавыя адкрыцці ў архівах Нясвіжскай капэлы (даследчык Т. Ліхач), надышоў час зазірнуць у музычныя архівы Гародні, Вільні... Трэба спадзявацца, што плённы пошук гісторыкаў-музыказнаўцаў толькі пачынаецца.

Нават у такой «спрыяльнай» галіне барочнага выканальніцтва, як арган, пазітыўных змен і зрухаў у напрамку пашырэння арганнага мастацтва як галіны філарманічнай дзейнасці ў нас мала. Разам з тым, на Беларусі ёсць пэўныя гістарычныя і культурныя ўмовы для развіцця арганнага выканальніцтва. На тэрыторыі рэспублікі размешчаны дзесяткі каталіцкіх касцёлаў з дзеючымі арганамі, якія мэтазгодна было б пашпартызаваць, адрэстаўрыраваць, каб наладзіць на гэтай базе канцэрты арганнай музыкі. Такая практыка склалася ва ўсіх еўрапейскіх краінах. Да таго ж, нагадаю, што хаця славутая канцэртная зала Домскага сабора ў Рызе, таксама як і Катэдра на плошчы Гедыміна ў Вільнюсе, перададзены ў распараджэнне веруючых, гэта не зменшыла іх ролю як цэнтраў канцэртнага і культурнага жыцця.

Які ж у нас сёння стан іншых жанраў барочнага выканальніцтва? На жаль, горшы. Калі ў штаце Беларускай дзяржаўнай філармоніі ёсць толькі адзін саліст-арганіст, дык канцэртуючых клавесіністаў у нашай рэспубліцы сёння няма зусім. Цяжка сказаць, з'яўляецца гэта ці вынікам, ці прычынай таго, што ў Мінску (а г. зн. і ва ўсёй рэспубліцы) сёння ёсць толькі тры (?!) канцэртныя клавесіны, і, дадамо, такіх сістэм і фірм, якія ў наш час у канцэртнай практыцы не ўжываюцца. Беларускія ансамблі, здольныя адрадзіць аўтэнтычную манеру выканання музыкі барока, не маюць тагачаснага інструментарыя. Вельмі добра, што слынны майстар У. Пузыня рэканструяваў беларускую басэтлю. Але як зрабіць, каб беларускія музыканты мелі і барочную скрыпку, і віоль д'амур, і віолу да гамба, старадаўнюю драўляную флейту і г. д.? Дарэчы, у нашай краіне ёсць майстры, якія вырабляюць такія інструменты па заказах канцэртных арганізацый. Аснашчанасць нашых вядучых камерных ансамбляў старадаўнімі музычнымі інструментамі бачыцца надзейнай неабходнасцю.

Зразумела, нельга звесці праблему прапаганды старадаўняй музыкі да наяўнасці інструментарыя ці камерных залаў. Пэўныя цяжкасці адраджэння аўтэнтычнага выканання музыкі старых майстроў абумоўлены не толькі матэрыяльным бокам справы—інструментарый, канцэртныя залы, падрыхтоўка выканаўцаў,—але і шырока распаўсюджаным нават сярод прафесійных музыкантаў меркаваннем пра «несучаснасць», «архаічнасць» і таму немэтазгоднасць і непатрэбнасць аўтэнтычнага выканання старадаўняй музыкі, прынамсі, музыкі барока. Маўляў, музыканты ўсіх часоў заўсёды імкнуліся пашырыць магчымасці існуючага інструментарыя і пераадолець абмежаванасць выканальніцкай манеры свайго часу. Дык навошта, маўляў, вяртацца да старых эстэтычных прынцыпаў, якія даўно адышлі ў гісторыю музычнага мастацтва.

І, як ужо зусім трывалы аргумент, ставіцца пытанне: а ці хто чуў, як выконвалася музыка старых майстроў у XVI—XVII стагоддзях? Паказальна ў гэтых адносінах тое, як ставіліся некаторыя музыканты (і колькасць іх не такая ўжо малая) да першага аўтэнтычнага выканання ў Мінску калектывам са Штутгарта Месы сі мінор І.-С. Баха. Стваралася ўражанне, што нашых мясцовых «меламанаў» больш турбавалі нейкія шурпатасці ў тэхніцы валтарніста, чым само гучанне натуральнай (бяспомпавай) валторны. Тонкасць інтанавання струнных з-за асаблівай, амаль непрыкметнай вібрацыі таксама не атрымала адэкватнага ўспрымання і была аднесена на кошт прафесійнай «нетрываласці» музыкантаў. Наогул, мінская публіка аказалася непадрыхтаванай да камернай (аўтэнтычнай!) трактоўкі бахаўскага шэдэўра.

Але не будзем спісваць усё на непадрыхтаванасць слухачоў. Сапраўды, тут ёсць пытанне па сутнасці для шырокай змястоўнай дыскусіі, якая вымагае і месца, і часу. Зазначу, аднак, у сувязі з гэтым наступнае. Гістарычныя помнікі культуры, напрыклад, шэдэўры жывапісу, змешчаныя ў музеях, з бегам часу вабяць нас з усё большай сілай. І гэтая прывабнасць рарытэтаў не памяншаецца ад «састарэлай» з пункту гледжання сённяшняга часу тэхнікі старых майстроў. Хутчэй, як вядома, наадварот. Што датычыць музыкі, дык гэта мастацтва гукаў. Таму музычныя помнікі ўсіх часоў там, дзе гэта мажліва, павінны існаваць не толькі ў выглядзе партытуры, даступнай выключна прафесійнаму слыху музыканта, але і ў жывым гучанні, зразумелым для шырокага кола аматараў.

І яшчэ на адно пытанне, звязанае з аўтэнтычным музычным выканальніцтвам, хацелася б звярнуць увагу. Гаворка пойдзе пра духоўную харавую музыку. Дзякуючы намаганням музыказнаўцы і фалькларыста Л. Касцюкавец мы даведаліся, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі існавала найбагацейшая кантавая культура. Таму паўстае пытанне яе адраджэння і авалодвання аўтэнтычнай харавой выканальніцкай манерай. Наогул, гэта датычыць усёй духоўнай харавой музыкі, якая так імкліва адкрываецца для нас. Менавіта такую аўтэнтычную манеру спеваў з бляскам прадэманстравалі не так даўно майстры з Балгарыі—краіны, дзе царкоўныя харавыя спевы спрадвеку былі сродкам захавання адметнай славянскай культуры.

Шмат што наконт шляхоў адраджэння аўтэнтычнага выканальніцтва музыкі барока можна праясніць, калі прааналізаваць змест нашай музычнай адукацыі. Вядома, сістэма музычнай адукацыі ў яе сённяшнім выглядзе ўзнікла больш за сто гадоў назад, як гамагенная аднародная структура, зарыентаваная на рамантычную музычную культуру XIX стагоддзя. Гэтая арганізацыйная і зместавая, «стылістычная», калі так можна сказаць, абмежаванасць музычнай адукацыі сёння рэзка супярэчыць галоўнай мэце перабудовы вышэйшай школы, прынамсі, неабходнасці падрыхтоўкі спецыялістаў шырокага профілю. Няма патрэбы падкрэсліваць, як гэта важна ў сферы мастацтваў.

Праўда, студэнты кансерваторыі «праходзяць» музыку барока. Але яна не робіцца іх творчым вопытам. Як гаворыцца, неверагодна, але факт: пераважная большасць выхаванцаў кансерваторыі, атрымліваючы дыплом аб вышэйшай адукацыі па спецыяльнасці фартэпіяна, не маюць ніякага ўяўлення пра аўтэнтычнае выкананне старадаўняй музыкі, ніколі ў жыцці не кратаглі клавішаў аргана ды клавесіна. Мала таго: сучасныя маладыя «клавірысты», або клавішнікі, як сёння гавораць, не маюць таксама ніякага ўяўлення і аб працы на электронным клавішным інструменце. Якая ж тут пануе самадзейнасць! І ці вы-

# Нечаканасць—і адкрыццё

ДУМАЮ, што дзень 26 снежня мінулага года стаўся для спявачкі Тамары Пячынскай этапным у творчай біяграфіі.

Імя яе вядома аматарам класічных спеваў па шматлікіх запісах на радыё і перадачах Беларускага і Цэнтральнага тэлебачання. Рэпертуар, назапашаны за гады работы салісткай рэспубліканскага тэлебачання і радыё, надзвычай разнастайны — гэта творы розных жанраў, эпох, народаў, але... Але «кантакты з мікрафонам» не могуць замяніць жывых кантактаў з публікай.

Цікавая спявачка з цікавай праграмай — вось чым прывабіў мяне канцэрт, які стаўся, па сутнасці, філарманічным дэбютам Тамары Пячынскай.

У першым аддзяленні прагучалі творы кампазітараў Германіі і Італіі эпохі барока: Бах, Гендэль, Качыні, Луццы, Джардані. Большасць гэтых твораў добра ведаюць і любяць слухачы. Якія «падводныя рыфы» трэба браць пад увагу інтэрпрэтатарам гэтай музыкі? Строгасць, абавязковая для яе выканання, зусім не азначае сухой эмоцыі і «шэрага» гуку. Дасягнуць драматычнага напружання, пазбягаючы фальшывага пафасу, душэўнага надрыву—адна з мэт выканаўцы. Высакароднасць мецца-сапрана Т. Пячынскай, выдатная вакальная тэхніка і, што самае галоўнае, музычнасць, дазволілі ёй узнавіць адчуванне жывога подыху музыкі. Глыбока пранікнуўшы ў вобразны свет аўтараў, спявачка здолела даць зместу твораў ярка індывідуальнае вытлумачэнне. Найбольш адметна былі, на маю думку, выкананы «Dignare» Гендэля і «Ave Maria» Луццы. Менавіта гэтыя творы асабліва цёпла прыняла публіка.

У другім аддзяленні выконвалася музыка іспанскіх кампазітараў. Музыка, якая ніколі не пакідае абыякавымі ні выканаўцаў, ні слухачоў. Прыгажосць «Танадылій» Гранадаса ў іх прастаце, ва ўменні некалькімі штрыхамі намаляваць музычны партрэт махі. Эмацыянальным жа цэнтрам усяго канцэрта было выкананне цыкла дэ Фальі «Сем іспанскіх народных песень». Выкананне і «Танадылій», і «Народных песень» вымагае ад выканаўцы пранікнення ў нацыянальны стыль музыкі, суладдзя вакальнай і драматычнай асноў. Гэтым шчаслівым спалучэннем якасцей цалкам надзелена Т. Пячынская. Тут і пачуццёвасць, і парыванне, і пяшчота, і пранікнёнасць. А свабоднае валоданне дынамікай вельмі прыдалася ў «ціхіх кульмінацыях» цыкла дэ Фальі — «Астурыяне» і «Калыханка»: гэта ж дзівосна эфектна — насычанае тэмбрам спяванне напаўголаса!

На «біс» Т. Пячынская праспявала «Сегідылью» з оперы Бізэ «Кармэн» і рамана Сантуцы з «Сельскага гонару» Масканьі. Прызнацца, для мяне гэта аказалася прыемнай нечаканасцю і сапраўдным адкрыццём. У арыях спявачка здолела да такой ступені зрабіць чужыя творы сваімі, што патрабаванні кампазітара ўжо перасталі быць «прымусам».

# Дружбы спеў

КОЖНЫ канцэрт у пэўным сэнсе—свята. А гэты канцэрт, хоць выканаўца ў ім быў адзін, можна назваць святам дружбы. Саліст ДАВТа БССР Эдуард Пелагейчанка выконваў песні розных народаў. Цікавая ідэя канцэрта, асабліва, як цяпер кажуць, «у наш няпросты час», была падмацавана высокім прафесійным майстэрствам.

Штосьці не прыходзяць на памяць канцэрты менавіта з такім рэпертуарам. Народныя песні ўключаюцца ў праграму ці не ўсімі артыстамі, але звычайна—як фрагмент, штрых, а не яе аснова. Тым больш прыемна адзначыць, што гэты канцэрт у 2-х аддзяленнях быў цікавы не толькі паводле ўвасаблення ідэі дружбы, але і як мастацкая з'ява.

Мне, беларусу, які пражыў паўвека на роднай зямлі, было прыемна ўжо тое, што Эдуард Іванавіч, прыехаўшы да нас з Расіі не больш як пяць гадоў таму, добра валодае беларускім вымаўленнем,—а беларускія народныя песні складалі самую значную частку ягонай праграмы. Што ж датычыць інтэрпрэтацыі, дык для мяне нават хрэстаматыйныя творы прагучалі па-новаму. І гэта зразумела. Кожны беларус чуе іх з дзяцінства і таму не зусім вольны ад нейкіх, можа, і не штампаў, але прынятых з гадамі ўмоўнасцей у іх выкананні. Напрыклад, я ніколі не чуў, каб песні «Ты, белая бярозанька» і «Шумныя бярозы» спяваў тэнар. Звычайна іх пяюць больш нізкія галасы. Ну, а паколькі кожнаму тыпу галасоў адпавядае свая інтэрпрэтацыя ў адносінах тэмпаў, паўтораў і г. д., дык тут, зразумела, было шмат новага, неспадзяванага.

Цікава ўспрымалася рэдка выконваемая песня «Дуда». І нават цудоўная і таму, як мы кажам, «запетая» песня «А ў полі вярба» прагучала ў нейкіх асабліва цёплых нюансах.

Ідэя дружбы аб'яднала ў першым аддзяленні канцэрта, акрамя беларускіх, эстонскую песню «Прадзі, Ліза», грузінскую—«Сісатура», армянскую — «Ціцернак», украінскія — «Чорныя бровы» і «Там, дзе Ятрань крута в'ецца». У другім аддзяленні Э. Пелагейчанка выконваў рускія народныя песні, у тым ліку з рэпертуару С. Лемешава «Ах, Настасся» і «Песню бабыля», рэдка выконваемую «Бульба мая» і іншыя. Заканчваў жа канцэрт (і спяваў на «біс»), як і належыць тэнару, неапалітанскімі песнямі.

падкова тое, што ў наш час у практыцы музычных навучальных устаноў фактычна страчана мастацтва імправізацыі. А вось жа ў прафесійным джазе гэта робіць кожны! Ці не авалодванне тэорыяй і практыкай генерал-баса, які ствараў аснову прафесійнай падрыхтоўкі клавірыста эпохі барока, магло б у значнай ступені дапамагчы вырашыць гэтую праблему? Няма нічога дзіўнага ў тым, што толькі адзін слухач мінскай «Акадэміі» (майстэрня арганістаў) рызыкнуў спаборнічаць з маэстра А. Янчанкам у такой забытай і фактычна страчанай галіне выканальніцтва, як вольная імправізацыя на зададзеную тэму!

Зразумела, усё гэта датычыць і іншых спецыяльнасцей, асабліва камернага класа і цыкла музычна-тэарэтычных дысцыплін. Вось чаму ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі надаецца такая вялікая ўвага новаму комплекснаму курсу тэорыі музыкі, праграмай якога прадугледжаны практычныя заняткі па генерал-басу і імправізацыі (аўтары праграмы курсу М. Шыманскі і А. Друкт). Думаецца, было б мэтазгодна, каб кожны студэнт кансерваторыі на працягу, скажам, аднаго семестра вывучаў у камерным класе аўтэнтычную манеру выканальніцтва, знаёміўся са старадаўнімі інструментамі. Марудлівасць з адкрыццём класа аргана і факультатыву па клавесіну здаецца недапушчальнай.

Вяртаючыся да вынікаў працы «Акадэміі старадаўняй музыкі», зазначу, што для адных яе слухачоў (напрыклад, для клавесіністкі з Масквы Н. Дзіжур) гэта была сапраўды Акадэмія, дзе шліфавалася выканальніцкае майстэрства; для іншых жа—тых, хто ўпершыню ўбачыў двухмануальны клавесін, гэта быў лікбез у галіне музычнага мастацтва барока.

Што ж, павышаць майстэрства неабходна, а вучыцца ніколі не позна. Таму трэба, каб наша «Акадэмія старадаўняй музыкі» працягвала сваю важную справу.

**Вадзім ЯКАНЮК,**
**кандыдат педагагічных навук, прарэктар БДК імя А. В. Луначарскага.**

---

яна адчула іх як свае ўласныя. А свежасць і яркасць голасу, экспрэсіўнасць, што захаваліся пасля выканання складанай праграмы, дазваляюць гаварыць пра вялікія патэнцыяльныя магчымасці спявачкі.

Партнёрам Тамары Пячынскай выступіла добра вядомая піяністка, дыпламант Усесаюзнага конкурсу Ганна Каржанеўская. Фартэпіянная ігра такога класа, які быў паказаны ў гэтым канцэрце, ужо не ўкладваецца ў паняцце акампанемент». І таму варта казаць пра выступленне ансамбля музыкантаў-аднадумцаў.

Пажадайма цудоўнай беларускай спявачцы Тамары Пячынскай новых адметных праграм і выступленняў

**Тамара НІЖНІКАВА,**
**народная артыстка СССР.**

---

Голас спевака, які я добра ведаю паводле оперных спектакляў, гучаў у гэты вечар асабліва ярка і пераканаўча, выяўляючы і школу, і майстэрства, і натхненне.

Пра творчы дуэт Э. Пелагейчанкі і канцэртмайстра Ларысы Максімавай «ЛіМ» не так і даўно пісаў. Гэты ж канцэрт пацвердзіў, што менавіта такое творчае супрацоўніцтва дае цудоўныя вынікі, дорыць людзям свята.

**Л. ІВАШКОЎ,**
**загадчык кафедры спеваў БДК.**

---

# Справа для сапраўдных мужчын

**Гутарку з акцёрамі Дзяржаўнага тэатра эстрады БССР «Хрыстафор» Яўгенам КРЫЖАНОЎСКІМ і Юрыем ЛЯСНЫМ вядзе карэспандэнт «ЛіМа» Жанна ЛАШКЕВІЧ**

**Ж. Лашкевіч.** Мае самыя шчырыя віншаванні тэатру «Хрыстафор» — з наданнем статуса дзяржаўнага і з прызнаннем на другім Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады. Віншаванні самыя сардэчныя — акцёрам Яўгену Крыжаноўскаму (першае месца), Юрыю Лясному, Сяргею Краўцу, а таксама аўтару шматлікіх пародый, фельетонаў, жартаў і досціпаў, мастацкаму кіраўніку тэатра Уладзіміру Пярцову. Прызнанне і поспех тым болей прыемныя таму, што вашаму тэатру толькі-толькі зраўнялася два гады. Яшчэ два гады таму я з радасцю адшуквала вашы, Юрый і Яўген, прозвішчы, у праграмках Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Часцяком бачыла вас абодвух на ягонай славутай сцэне: у вас былі ролі, поспех. Што прымусіла вас зрабіць рызыкоўны крок, калі жыццё, здавалася б, пайшло па трывалых, накатаных рэйках? Праўда, я ведаю вас і як пастаноўшчыкаў тэатральных капуснікаў, як завадатараў мінскіх «Гумарын», удзел у якіх выдаваў вашу незадаволенасць акадэмічным мастацтвам...

**Я. Крыжаноўскі.** Натуральна, ў такім рызыкоўным рашэнні адыгралі сваю ролю і капуснікі, і «Гумарыны», і акадэмічная напрактыкаванасць, але я, да прыкладу, даўнавата ўжо пачуваўся на купалаўскай сцэне ніякавата: быццам і ролі ёсць, ды ўсе, так бы мовіць, на адзін капыл, аднаго плана, адная характарнасці, адных запатрабаванняў, аднаго (не самага высокага) узроўню... З надыходам перабудовы я на свае вочы пераканаўся, як мой улюбёны, шанаваны, ганараваны тэатр паступова рабіўся непатрэбным грамадству горада. Гэта, падкрэслю, мая прыватная думка. Я зусім не настойваю, каб яе падзялялі мае суразмоўцы і штотыднёвік «ЛіМ». Ну а што да пераходу з прафесійнага тэатра — дык я ў прафесійны тэатр і патрапіў.

**Ю. Лясны.** Я лічу «Хрыстафор» падарункам лёсу. Я ўжо не спадзяваўся пераадолець стэрэатып ва ўспрыманні сябе людзьмі. Ужо амаль пагадзіўся з прызначэннем блазна-пацяшальніка. Балазе, нарадзілася ідэя стварэння свайго тэатра.

**Ж. Л.** Падобна, што «Хрыстафор» пачаў складаць сур'ёзную канкурэнцыю датацыйным тэатрам. Пытанне да цябе, Юрый, і як да дырэктара: ці можна асвятліць грашовы бок вашых поспехаў?

**Ю. Л.** Не сакрэт, што Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з'яўляецца датацыйным, і таму зарплату там можна атрымліваць не надта зважаючы на пустыя крэслы ў глядзельнай зале. Зразумей мяне правільна. Я не падкладаю бомбу пад нацыянальнае сцэнічнае мастацтва, але артыст не можа не працаваць. Артыст не мае права карміцца са штампаў. Некалі ўсё вырашалі за мяне — дырэктар, рэжысёр, мастак, нават пяты асвятляльнік, а зараз я ўсё вырашаю сам за сябе. І адказваю сам за сябе.

**Я. К.** У датацыйных тэатрах, на мой погляд, пра гледача дбаюць мала. Рэжысёраў апанавала прага самавыказвання і яны самавыказваюцца. А ў «Хрыстафоры» мы штодня сутыкаемся з патрэбамі і патрабаваннямі гледача, стараемся яго задаволіць, праўда, пільнуем, каб не збіцца на пошлую кан'юнктуру.

**Ж. Л.** Не магу пагадзіцца з тым, што рэжысёрамі па-за тэатрам «Хрыстафор» кіруе адно прага самавыказвання — гэта ў якасці рэплікі. Аднак ці не пагодзіцеся вы распавесці, як ажыццяўляецца ва ўмовах нашай незбалансаванай эканомікі гасразлік у вашым тэатры?

**Ю. Л.** Ён у нас самы сапраўдны. 370 месцаў у зале, 370 білетаў у касе. Ніякіх датацый, дапамог, субсідый на развіццё і да таго падобнага. За ўсё разлічваемся самі. Працуем не ў два, а дваццаць два разы болей, калі параўнаць з працаю ў акадэмічным тэатры. Атрымліваем, адпаведна, таксама куды больш.

**Я. К.** Менавіта гаспадарчы разлік надаў нам творчае незалежнасці!

**Ж. Л.** Так, вас не звязваў мастацкі савет, вам далі вольную волю, але, пагадзіцеся, вашай першай праграме бракавала якраз патрабавальнасці.

**Я. К.** Паводле палажэння пра тэатры-студыі ў нашых праграмах не павінна быць парнаграфіі і заклікаў да вайны. Усё астатняе быць можа.

**Ж. Л.** «Усім астатнім» чынам?

**Я. К.** З «усяго астатняга» прасцей браць, не выбіраць. Напачатку, каб абвясціць пра сябе гораду і цэламу свету, каб прывучыць да сябе гледачоў, каб набыць вядомасці, папулярнасці, мы... ну не вельмі патрабавалі ад саміх сябе... памыляліся. Ты правільна заўважыла: «...мацнейшым за ўсё астатняе ў студыйцаў было жаданне спадабацца ўсім, кожнаму і любым коштам». Паветра волі вольнае! Яно і не такія кепікі строіць з нашае «акадэмічнае» свядомасці. Затое цяпер публіка нас не абмінае.

**Ж. Л.** Што можна сказаць пра цяперашні рэпертуар «Хрыстафора»?

**Ю. Л.** Так, першая праграма «Хто каго?» была відовішчам чыста для забавы, для пацехі, смехам дзеля смеху, калі на тое пайшло. Жэня гэта правільна вызначыў. Другая праграма, «М і Ж», лірычная, хоць смеху і ў ёй хапае. Мы намагаліся паразмаўляць на тэмы адвечныя і сучасныя, пра каханне, вернасць, надзею, пра мужчыну і жанчыну, пра разуменне адно аднаго, пра сям'ю, нарэшце. Трэцяя праграма, над якою зараз працуем, называецца «Багадуеў, наперад!»

**Ж. Л.** Хто-хто?

**Я. К.** Багадуеў, горад такі. Маленькі. На згібе карты. Таму яго няпроста знайсці. Мы, праўда, вядзём пошук і высвятляем, што ў нашай краіне пятнаццаць сталіц, а ўсё, што не сталіцы, — суцэльны Багадуеў... Не трэба думаць, што мы пачнём распавядаць пра Сталіна, культ асобаў, застойныя гады. Усё куды больш трагічна і... смешна. У Багадуеве, да прыкладу, пабудавалі ўжо камунізм. На дзве пяцігодкі раней за тэрмін. Першымі павярнулі рэкі куды сказана было. А зараз рыхтуюцца да свята заканчэння перабудовы...

**Ю. Л.** Чацвёртая праграма, назву для якой пакуль шукаем, будзе цалкам адпавядаць і нашай нацыянальнай прыналежнасці. Рыхтуем яе на мясцовым матэрыяле, сіламі мясцовых аўтараў і — на беларускай мове.

**Ж. Л.** «Хрыстафор», нарэшце, перастаў яе баяцца?

**Я. К.** Я першы супраціўляўся працы па-беларуску. Праўда, нядоўга. Супраціўляўся са страху, што да нас з-за гэтага не пойдуць гледачы — з той прычыны, што мовы папросту не зразумеюць. (Добра памятаю, як у купалаўскім тэатры людзі адзін аднаго перапытвалі, што артыст сказаў.) Але ўсіх, і мяне першага, пераканаў урывак «Вяселле», сыграны па-беларуску на конкурсе артыстаў эстрады. Журы і гледачы шмат зразумелі — хоць і з кантэксту. Затое поспех!.. Мова не проса надала каларыту, а...

**Ж. Л.** ...сякой-такой незразумелай годнасці сваім носьбітам?

**Ю. Л.** Годнасці якраз зразумелай. Славянскаму гледачу можна спакойна іграць па-беларуску. Мяркую, ніякіх вялікіх неўразуменняў не будзе. Але пачынаць іграць па-беларуску страшнавата. Хоць бы таму, што моваю валодаем не бліскуча...

**Ж. Л.** Як на вашу думку, ці ёсць у «Хрыстафора» свой глядач?

**Я. К.** А ў якога тэатра свой глядач ёсць? Таганка трымаецца за кошт прыезджых, у МХАТе пустыя крэслы, купалаўскі даўно без аншлагаў...

**Ж. Л.** А ці ёсць, Жэня, тэатр, які ты ўпадабаў?

**Я. К.** Мо недзе і ёсць. Але ўзяць нашы тэатры-студыі: па большыні сваёй там толькі самавыказваюцца, дбаюць пра ўласныя праблемы, а праблемы горада Мінска і рэспублікі Беларусі не бяруцца там пад увагу. А калі яшчэ мастацкасці бракуе, дык пра што гаварыць? Некалі ў ЭТА было пяць тэатраў, застаўся адзін «Хрыстафор» — людзі хутка ацанілі працу тых, каго яны, людзі, сапраўды цікавяць.

**Ж. Л.** Мае колішнія прэтэнзіі да тэатра «Хрыстафор» грунтаваліся на не надта высокай патрабавальнасці ў падборы матэрыялу, які падаваўся са сцэны, і на адсутнасці рэжысуры — усялякае. Я схілялася і схіляюся да думкі, што пакуль уласна тэатрам «Хрыстафор» назваць ніяк няможна. Нават тэатрам эстрады. Вядома, вы зусім не «самадзейнасць», пра якую некалі чула ад першых гледачоў «Хрыстафора», але вы яшчэ на шляху да свайго тэатра... Хоць на шляху пэўным. Займелі ўжо свайго літаратурнага аўтара, Уладзіміра Перцава. Ягоныя жарты, пародыі, фельетоны выконваеце з асаблівым задавальненнем. З імі, ведаю, перамаглі і на Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады. Перцаў — адзіны ваш аўтар?

**Ю. Л.** Адзіны. «Хрыстафор» у пэўным сэнсе — аўтарскі тэатр. Гэта не значыць, што мы б адкінулі ўбок любую чужую праяву гумару ці сатыры, але, на жаль, няшмат вартага нам прапаноўваюць. Праз «ЛіМ» звяртаюся да сатырыкаў, да гумарыстаў: нам вельмі і вельмі не стае вас, шаноўныя. На любой мове, у любы час, у любым памеры. Але права выбару пакідаем за сабою.

**Ж. Л.** На шляху да сапраўднага тэатра эстрады ці не думаеце вы папрацаваць над п'есаю?

**Я. К.** Я, да прыкладу, папросту не ведаю, якая менавіта п'еса спатрэбілася б зараз публіцы. Лепей пачакаць колькі гадоў, як прыспешваць чыесьці патрэбы ў класіцы, у тэатральным бестселеры ці баевіку.

**Ю. Л.** Так, класіка патрэбна, але — разам з рэжысёрам. А ў нас прафесійнага рэжысёра-эстрадніка якраз няма. І няма яго нідзе — ні ў Маскве, ні ў Ленінградзе, ні ў Рызе. Такога, які б мог і хацеў па-эстраднаму ставіць вядомыя тэатральныя творы — так, як нам трэба.

**Ж. Л.** Ці ладзіце вы кантакты з тэатрамі Саюза, блізкімі «Хрыстафору» і літарай, і духам?

**Ю. Л.** Неаднаразова выступалі ў Тэатры эстрады ў Маскве, але і маскоўскі «Бім-Бом», і ленінградскі «Буф», і кіеўскі «Жарт» літаральна гібеюць з-за недахопу добрага матэрыялу. Так што «Хрыстафору» жывецца і жартуецца лепей за калегаў.

**Ж. Л.** Ці задавальняе «Хрыстафор» ягоны сённяшні акцёрскі ўзровень?

**Ю. Л.** Акцёры, што прыйшлі з самадзейнасці, моцна падцягнуліся.

**Я. К.** Станіслаўскі казаў, што эстрада — другі полюс тэатра. Такім чынам усе патрабаванні тэатра павінны выконвацца і намі. Як на маю думку, дык акцёрскі ўзровень «Хрыстафора» пакуль не высокі, нягледзячы на прызы і месцы ва ўсесаюзным конкурсе. Мы, сапраўды, трымаемся на трох-чатырох асобах. Але паглядзі, як цікава раскрыўся на нашай сцэне Міхаіл Длузскі — і параўнай з Маладзёжным тэатрам, на сцэне якога Міхаіл не выявіўся ніяк.

**Ю. Л.** І Мішавы песні часоў «Хрыстафора» таксама моцна адрозніваюцца ад колішніх. Нездарма іх узялася запісваць фірма «Мелодия».

**Ж. Л.** Вы па-ранейшаму аддаяце перавагу мужчынскаму складу трупы ці робіце выключэнні для кагосьці з актрыс?

**Ю. Л.** Па-ранейшаму. Жанчына на караблі... Лепей не трэба.

**Я. К.** Не ўяўляю, як можна смяяцца з жанчыны, не ведаю жанчыны, якая б дазволіла публіцы штовечар рагатаць з яе. Як па мне, дык эстрадны тэатр — самы мужчынскі тэатр у свеце. Эстрада — справа для сапраўдных мужчын.

**Ж. Л.** Які ваш ідэал тэатра? Ці можна сцвярджаць, што набліжэнне да яго залежыць толькі ад вас?

**Ю. Л.** Можна. Як можна з адказнасцю мовіць: такіх, як мы, у краіне пакуль няма. Мы намагаемся злучыць у сваіх прадстаўленнях пантаміму і вакал, музычную эксцэнтрыку і пародыю, жарт і лірычную песню. Мы не абмяжоўваем сябе жанрамі, шмат што выпрабоўваем і, галоўнае, імкнёмся гэтым стракатым, на першы погляд, «наборам», даць парадаксальны зрэз нашага часу і выявіць сябе ў ім.

**Ж. Л.** Што ж, поспеху вашай мужчынскай справе.

*Віншуем!*

# АД БАЦЬКАВАЙ КРЫНІЦЫ



Леаніду Дайнеку ў свае пяцьдзесят ёсць на што азірнуцца: яго літаратурны палетак, руплівa засеяны і дагледжаны, багата ўскаласіў. Жанравы дыяпазон творчасці пісьменніка даволі шырокі: лірык, навеліст, раманіст, публіцыст, крытык... І трэба шчыра сказаць, да якога б літаратурнага жанру ні звярнуўся Л. Дайнека, ён выяўляе здольнасць па-майстэрску раскрыць змест твора, пранікнуць у сутнасць закранутых жыццёвых праблем.

**Ужо ў першым зборніку вершаў «Галасы» аўтар засведчыў уменне спалучаць рэалістычную дакладнасць малюнка з пранікнёным лірызмам і яркай метафарычнасцю. У наступных кніжках паэзіі, захаваўшы непасрэднасць успрымання жыцця, Л. Дайнека імкнецца напоўніць вобразы паглыбленым сэнсам, выйсці на шырокія мастацкія абагульненні. У некаторых вершах быў відавочным сюжэтны пачатак, спроба паказаць зменлівасць душэўнага стану лірычнага героя, адметныя рысы яго характару, што з бясспрэчнасцю гаварыла: у паэце выспяваў празаік. І таму натуральна, што неўзабаве ў друку з'явіліся апавяданні Л. Дайнекі, якія потым склалі зборнік «Бацькава крыніца». Празаічны дэбют пісьменніка прыцягнуў увагу чытача вастрынёй і займальнасцю сюжэтаў, каларытна выпісанымі персанажамі, паэтычнасцю мовы. Аднак новая літаратурная пазіцыя, якую пісьменнік паспяхова авалодаў, была для яго неспакойнай творчай натуры недастатковай. адчуваючы свой мастакоўскі патэнцыял, ён лічыў яе толькі подступам да галоўнага. Раманны эпас — вось тая стыхія, у якой на поўную моц раскрыўся і разгарнуўся самабытны талент пісьменніка. Незабыўныя рэвалюцыйныя падзеі Кастрычніка на Беларусі знайшлі адлюстраванне ў раманах «Людзі і маланкі», «Запомнім сябе маладымі», якія прываблівауць паказам драматычнага паядынку старога і новага свету, непаўторнымі *абліччамі змагароў* за лепшую долю. Дакрануўшыся ў гэтых творах да пакутнага нараджэння сацыялістычнай дзяржаўнасці нашага народа, Леанід Дайнека адчуў патрэбу асэнсаваць і іншыя перыяды яго гісторыі. Таму было заканамерным, што ў сваім наступным рамане «Футбол на замініраваным полі» пісьменнік звяртаецца да сучаснасці, закранае складаныя праблемы нашай сённяшняй рэчаіснасці, сцвярджаючы думку аб тым, што і ў спакойным бегу дзён непазбежна выспяваюць вострыя сацыяльныя і маральныя канфлікты.**

Кожным сваім новым творам Л. Дайнека як бы падносіць нечаканы сюрпрыз: пасля «Футбола на замініраваным полі» адзін за другім публікуюцца раманы «Меч Князя Вячкі» і «След Ваўкалака», у якіх на нас дыхнула сівой даўнінай, полымем смяротных боек, што вялі нашы продкі з чужынцамі за сваю свабоду і незалежнасць. Што гэта? Вымушанае шараханне аўтара, якому не ўдаецца замацавацца на аднойчы абранай тэматычнай дзялянцы? Але ж тое, што можна прыняць за непастаянства пісьменніцкай увагі, мае сваю пераканаўчую логіку. Адчуць сувязь часоў, спазнаць і высвятліць гістарычную радаслоўную свайго народа — гэта духоўная патрэба сучасніка, наследніка ўсяго, што стваралі і за што змагаліся яго папярэднікі. Чалавек, як і народ, не адказаўшы на пытанні, адкуль ён і хто ён, што ў яго за плячыма, не можа па-сапраўднаму адбыцца, адкрыць сябе самога, разумна спраектаваць сваю будучыню. Далёкая мінуўшчыны ў раманах Л. Дайнекі ўспрымаецца не як нешта прывідна архаічнае, а як драматычныя і гераічныя старонкі гістарычнага лёсу беларускага народа, як пярэдадзень сённяшняй рэчаіснасці. Пісьменнік, як сувязны вякоў, працягвае свой мастакоўскі провад з былога ў сучаснасць, робячы магчымым жывую размову продкаў і нашчадкаў. Ці трэба гаварыць, як важна гэта ў нашым духоўным жыцці зараз, у час перабудовы, калі пачалося адраджэнне нацыянальных святынь і каштоўнасцей народа.

**Калі чытаеш раманы Л. Дайнекі «Меч князя Вячкі» і «След Ваўкалака», пераносішся ў атмасферу жыцця і барацьбы нашых прашчураў і не можаш не захапляцца гераічнымі постацямі персанажаў, якія ўспрымаюцца як жывыя людзі з іх тагачасным адзеннем, з іх хваляваннямі, думкамі, настроямі... І ўсё гэта перададзена пісьменнікам з такой пераканаўчасцю, з такой пранізлівай праўдзівасцю, нібыта ён сам толькі што пабываў у камандзіроўцы ў тых незапомных часах. Вобразы герояў пісьменніка не могуць не зачароўваць сваёй апантанай любоўю да роднай зямлі, самаахвярнасцю ў бітвах за яе свабоду. Як не ўпадабаць легендарнага князя Вячку, які ўвасобіў у сабе столькі трагічнай красы, чалавечай годнасці і мужнасці! Яго пагібель пры абстрэле Юр'ева — гэта праява братэрскай лучнасці суседніх народаў. Урокі гісторыі і сёння вучаць нас мудрасці сяброўскага яднання, папярэджваюць ад згубнасці адчужанасці і адасобленасці. Гэткім жа павучальным з'яўляецца для нас і вобраз полацкага князя Усяслава Брачыслававіча, якога суайчыннікі за розум і бясстрашша любоўна празвалі Чарадзеем, Ваўкалакам. Свет яго думак, яго дасціпнасці і лагодлівасці, яго заклапочанасці лёсам народа сугучны таму, што і сёння хвалюе нас.**

І яшчэ адна асаблівасць раманаў Л. Дайнекі — ярка выражаная паэтычнасць моўных сродкаў, шырокае выкарыстанне слоўнага жывапісу, разгорнутых метафар, асацыятыўных вобразаў. У добрай згодзе з паэзіяй проза пісьменніка плённа працуе на раскрыццё складаных аўтарскіх задум, на вырашэнне сюжэтных калізій і стварэнне непаўторнасці характараў персанажаў.

Некаторыя лічаць, што Леанід Дайнека свой гістарычны эпас стварае ў рэчышчы таго, што рабіў Уладзімір Караткевіч, абапіраючыся на яго вопыт, наследуючы яго творчыя традыцыі. Думаецца, што гэта зусім розныя мастакі. Калі ў У. Караткевіча зайздросны палёт фантазіі растварае абрысы канкрэтных падзей і постацей у ружаватай рамантычнай дымцы, дык Леанід Дайнека рэалістычным аб'ектывам з бязлітаснасцю высвечвае мінулае да зрокава адчувальных падрабязнасцяў і дэталяў побыту продкаў, пакідаючы ўражанне поўнай дакладнасці адлюстраванага ім у творах.

З прыязнасцю сустракае чытач кожны новы твор Леаніда Дайнекі, кнігі якога не залежваюцца на паліцах, — яны сумленна працуюць на духоўнае ўзбагачэнне сучасніка. Нездарма раман «Меч князя Вячкі» ўдастоены высокай узнагароды — Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа.

Ад бацькавай крыніцы бярэ пачатак вірлівая плынь мастакоўскай ракі Леаніда Дайнекі, кіруючыся да мора, імя якому беларуская літаратура. Вось ужо дзесяткі гадоў ён шчодра аддае сваю творчую энергію прыгожаму пісьменству бацькаўшчыны, абяцаючы нам радасць новых сустрэч.

**Пятрусь МАКАЛЬ.**

# ЭКАЛАГІЧНАЯ НІША МАСТАЦТВА

Нейк на рэспубліканскай выставе «Мастак і экалогія» я сустрэў здымачную групу Беларускага тэлебачання. Выпадкова пачуў словы тэлекаментатара: маўляў, праблема экалогіі настолькі сур'ёзная, што на гэтай выставе не варта разважаць пра мастацкія вартасці твораў, галоўная мэта выстаўкі — прыцягнуць увагу грамадскасці да нашай агульнай бяды. Па ўказанні рэжысёра аператар навёў тэлекамеру не на мастацкія творы, а на чорныя харугвы, якія луналі над шматтысячнаю грамадою 26 кастрычніка і 30 верасня на плошчы Леніна ў Мінску ў час леташніх мітынгаў «Хвіліна маўчання» і «Чарнобыльскі шлях».

Пачутыя словы ўразілі мяне агаленай яснасцю. І сапраўды: што можа зрабіць мастак, калі дымяць каміны ў Полацку, Магілёве і Гродне, калі смяротна засолены грунтовыя воды Салігорска, калі чорны пыл Чарнобыля атрутай лёг на гарады і нівы? І ці трэба было траціць немалыя грошы на арганізацыю выстаўкі, калі з публікацый ў «Московских новостях» ці «АиФе», у выданнях народных франтоў чытач пачэрпне больш фактаў па праблемах экалогіі, чым з любога, самага цудоўнага палатна?

Адказы на гэтыя пытанні адназначныя. Мастак можа зрабіць надзвычай шмат! І выстаўку такую не проста трэба, а неабходна было наладзіць.

Ідэю яе ўхваліла абсалютная большасць мастакоў. І шматстайнасць экспазіцыі сведчыла аб тым, з якім гарачым пачуццём, быццам выконваючы рытуальны абрад, мастакі імкнуліся ўдзельнічаць у гэтай акцыі. Не, гэта не мода і не толькі ўсведамленне актуальнасці тэмы. Тут штосьці ад падсвядомага жадання адчуць сваё адзінства з прыродай, не толькі абараніць яе, але і самім знайсці ў ёй абарону. У страсным жаданні мастакоў удзельнічаць у выставе я бачу імкненне паломнікаў, якія доўга блукалі ў пошуках святыні і нарэшце выйшлі на дарогу да храма. На гэтай дарозе неяк самі па сабе заціхлі звычайныя дробныя спрэчкі. Гледачы атрымалі магчымасць убачыць праблемы экалогіі не толькі як атручэнне вады і паветра, знікненне лясоў і жывёлы, а ў яе галоўным, яшчэ мала асэнсаваным намі аспекце — забойства чалавечай душы праз знішчэнне прыроды.

Гляджу на палатно Гомельскага мастака В. Дзенісенкі «Пейзаж з рыбаком». У дынамічны наш час яго «метафізічны» рэалізм здаецца даволі архаічным. Але гэтая застыласць мастакоўскага погляду падобна на погляд скрозь павелічальнае шкло. Адзінокая постаць каля *безыменнай паміраючай рачулкі.* Пясок даядае шкілет былой лодкі. Рэдзенькія кусцікі ля плаціны.

Заклікае да выратавання самотны хляўчук, кінуты пад радыеактыўна-асветленым небам на палатне В. Шкарубы («Старая школа»).

Колькі тут пачварных краявідаў, якія просяць дапамогі — «Прамзона. Наваполацк» В. Цецянюка, «Памяці прыгарадных вёсак» А. Фралянкова, «Палеская хроніка» В. Кожуха, «След браканьера» А. Сямілетава, «Вячэра» А. Пушкіна...

Спажывецкая наша свядомасць, якая нішчыць прыроду ў тэхнакратычным экстазе, мае сваю апору ў тым вульгарна-грубым уяўленні, што бяздушная прырода ў чалавеку набывае свядомасць, душу, эмацыянальную ўспрымальнасць. Відаць, няма нічога больш памылковага, чым такое ўяўленне. Чалавек — дзіця прыроды — адно сканцэнтраваў у сабе душу прыроды, падобна на тое, як лінза факусіруе сонечныя промні. Скульптар толькі выяўляе і «дамалёўвае» тое, што прырода нафантазіруе ў карэньчыках і каменьчыках. Жывапісец толькі паўтарае ігру самацветаў з дапамогай фарбаў, разумеючы пад самацветам і свячэнне пейзажаў і жыццё рэчаў. Толькі цяпер, у канцы XX стагоддзя, чалавецтва перайшло ў пару сталасці і, па-новаму агледзеўшы плён працы і розуму свайго, усвядоміла згубнасць не толькі бяздумнага развіцця тэхнікі. Чалавек ўбачыў, што ў экстазе захаплення сваім панаваннем разарваў крэўную сувязь з прыродай.

Вось у чым галоўны змест гэтай выстаўкі. Разбураючы цела прыроды на Зямлі, чалавек дайшоў да грані знішчэння яе душы. І *цяпер толькі мастацтва* з яго цэласна-жывым (эстэтычным) спосабам спасціжэння сутнасці з'яў і здольна выявіць душу прыроды і чалавека, дакрануцца да струн гэтай душы, яе гукаў і фарбаў, форм і рытмаў. І якой бы ні была сёння і заўтра публіцыстыка, у асэнсаванні праблем экалогіі знойдзецца месца і для выяўленчага мастацтва.

Я доўга стаю каля работы А. Кішчанкі «Захаваць прыгажосць». Сюжэт яе не новы, *грунтуецца на рэлігійнай свядомасці.* Аднак сёння гэты сюжэт уяўляецца мне матэрыялістычна-аб'ектыўным. Заціснутая ў кліне дзвюх халодна-сініх, урбаністычна-прамавугольных форм, галава мадонны нагадвае рысы канкрэтнай, зямной жанчыны. Між яе рук — несумаштабна-маленькая фігурка немаўляці. Над галавой — барвовае сонца. На плечы — пунсовая накідка. Твар жанчыны *прасякнуты трывожным холадам.* Можа, майстар толькі паўтараў век XV на лад веку XX? У XX інтуіцыя мастака павярнула, дакладней — па-новаму асэнсавала сюжэт. Маці-Чалавецтва аберагае Дзіця — Унука Прыроды!

Тут якраз і адкрываецца экалагічная значнасць мастацтва. Выступаючы ў абарону прыроды, мастацтва змагаецца за душу чалавека як часткі душы прыроды. Гэтым мастацтва ажыццяўляе сваю галоўную гуманістычную функцыю — захаванне чалавека для жыцця.

Калісьці Дастаеўскі сказаў: «Прыгажосць уратуе свет!» Вучоныя, палітыкі, сацыёлагі, інжынеры — усе людзі могуць садзейнічаць змяненню экалагічнай абстаноўкі на Зямлі не толькі сілай сваіх спецыяльных ведаў, а яшчэ тым, наколькі ў кожным з іх прачнецца і ажыве мастак — удзельнік агульначалавечай творчасці.

**А. ДАБРАВОЛЬСКІ.**

# Будзе тэатр у Полацку

**У кастрычніку мінулага года Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб мерах далейшага развіцця г. Полацка і захавання яго культурна-гістарычнай спадчыны. Хачу звярнуць увагу на адзін з пунктаў гэтага дакумента. Як вядома, да *1125-годдзя* найстаражытнейшага беларускага горада плануецца ўпрыгожыць яго будынкам драмтэатра. Калі мець на ўвазе крызісны стан нашай эканомікі, дык рашэнне гэтае неардынарнае. Разам з тым яно наспелае і даўно чаканае для тых, хто рупіцца аб непарыўнасці культурных традыцый Полацка. І вось у памянёнай пастанове Саўміна зроблены чарговы крок да рэалізацыі задумы: «Дзяржбуду БССР, Міністэрству культуры БССР, Саюзу архітэктараў БССР абвясціць адкрыты рэспубліканскі конкурс на лепшы праект будынка драматычнага тэатра ў г. Полацку і апублікаваць яго ўмовы ў рэспубліканскіх газетах».**

**Конкурс пройдзе ў часе святкавання 500-годдзя з дня нараджэння славутага палачаніна і, пэўна, будзе адною з *адметных старонак* скарынаўскага юбілейнага календара. Характэрна і тое, што, паводле праекта рэгенерацыі гістарычнай забудовы Полацка, будучы тэатр мае быць размешчаны на старажытнай Параднай плошчы (зараз — пл. Леніна). І ўжо сапраўднай адзнакай нашага часу ёсць адкрытасць конкурсу, вартая Мельпамены — заступніцы самага дэмакратычнага з мастацтваў.**

**Вопыт правядзення падобных мерапрыемстваў даводзіць неабходнасць двух, або нават і трох конкурсных тураў. Пры гэтым першы этап прысвячаецца калектыўнаму пошуку ідэі-канцэпцыі будучага будынка з шырокім удзелам усіх зацікаўленых асоб і ўстаноў. Знойдзеная ў час дэмакратычнага абмеркавання ідэя — гэта грунт для наступных (уласна архітэктурных) этапаў, задачаю якіх ёсць ужо непасрэдны пошук формы. Такі парадак дазваляе ашчадна скарыстаць выдаткаваныя на конкурс народныя грошы. А паэтапнае шырокае абмеркаванне вынікаў — зменшыць верагоднасць выпадковасцяў і памылак у рашэннях.**

**Відаць, нельга весці гаворку аб новым тэатральным будынку ў адрыве ад *пытання* рэгенерацыі гістарычнай забудовы горада ўвогуле, і ў прыватнасці — старажытнай Параднай плошчы. Інакш стварэнне яшчэ аднаго «навастроя» будзе працягам знішчэння вобраза найстаражытнейшага горада Беларусі.**

**І яшчэ. У Полацку павінен быць не нейкі раённы драмтэатр, *а тэатр агульнанацыянальнага* значэння. Скажам, Тэатр беларускай гістарычнай драмы. Гэты аспект таксама варта было б улічыць пры падрыхтоўцы праекта.**

**В. БОГУШ.**

## Нашы публікацыі

**Аркадзь Моркаўка пражыў нядоўгае жыццё — нарадзіўся ў 1900 г., а ў 1957 г. яго не стала. У 20-я гады выдаў зборнічак вершаў «Дым жыцця», станоўча ацэнены Цішкам Гартным, многа друкаваўся ў перыёдыцы — у «Маладняку», «Полымі», іншых выданнях. Затым (відаць, не без уплыву вульгарна-сацыялагічнай крытыкі) надоўга замаўчаў. Два другія зборнікі паэзіі выйшлі, калі паэта сярод нас не было. Напісанае ў 30-я гады згарэла падчыстую на трэці дзень вайны. Напісанае ў вайну і пазней часткова змяшчалася ў пасляваенных зборніках. Але надрукавана толькі невялікая частка спадчыны паэта. Рэшта — у тым ліку і чатыры закончаныя і адна незакончаная паэмы — захоўваецца яго дачкой Пронінай Ларысай Аркадзьеўнай. Не надрукаваны фактычна лепшыя творы — глыбока трагедыйныя, філасофска-значныя, пазбаўленыя натуралістычнай прыземленасці, пра пакуты чалавечай душы і яе азарэнні, пра невымерныя страты і часовае няверʼе. Адным словам — пра тое, як адчувалася ў гады ваеннай навалы яе непасрэднаму ўдзельніку — падпольшчыку Аркадзю Моркаўку.**

**Мікола МІШЧАНЧУК.**

### Аркадзь МОРКАЎКА

## *Паэту*

**У чоўне паэзіі будзем плысці**
**На хвалях натхнення буяных,**
**Пакуль не пакінуць лілеі ў трысці**
**Шклянымі гарэць агнямі.**

**Нам суджана песні ў пакуце тварыць,**
**І згінуць ці з крыкам, ці з смехам.**
**Цвісці б толькі полымем кволай зары,**
**Рассыпацца звонам рэха!**

**Кіруй жа свой човен, далёкі сусед,**
**Плыві да абранае мэты:**
**Не ўсе яшчэ гукі сабраны ў букет,**
**Не ўсе яшчэ песні спеты!**

**Калі ж перуном давядзецца грымець**
**Ці ўпасці надломаным крыкам —**
**Уславім усходу празрыстую медзь**
**Апошнім грымотным зыкам!**

**Яшчэ не пакінула рута цвісці**
**І сеяцца водарам пʼяным.**
**Мы, штучныя кветкі у штучным трысці,**
**Заззяем яшчэ агнямі!**

●

**Цякуць вякі па кроплі і паволі**
**Праз лічбы зор.**
**І нам пярэсты лёс дазволіў**
**Блішчэць слязой.**

**У страшны час крыві й пакуты**
**Рыкае звер.**
**У крузе, крэйдаю замкнутым,**
**Мы ўсе цяпер.**

**У страшны час крыві і стогнаў**
**Зару малю,**
**Кляну бязлітаснага бога —**
**Тугу маю.**

**Узняў свой нож пракляты Каін,**
**Рагоча смерць.**
**О ты, глухі, недатыкальны,**
**Злажы свой меч!**

●

**Развітайся, хлопча, з маладою жонкай,**
**Адгаруй усё гора і — адкінь,**
**Бо ўсё роўна недзе пад крылом сасонкі**
**Залатою znічкай упадуць дзянькі.**

**Па шляхах шырокіх, па таемных сцежках**
**Зацвітаюць макам жудасць і адчай.**
**Ці ты едзеш конна, ці ты ходзіш пешкам —**
**Галавы не зносіш на плячах!**

**Развітайся, хлопча, з любым плаксам-сынам,**
**Хай яму паслужыць свой уласны лёс,**
**І крычы ад болю, што твая краіна**
**Знае мала шчасця, знае многа слёз.**

●

**Разумею адчай і праклёны,**
**А таму і маўчаць не магу.**
**Хто з вас бачыў, як раніцай клёны**
**Падгінаюць ад зморы нагу?**

**Хто з вас чуў, як у полымі славы**
**Нараджаецца ветлівы дзень,**
**Каб напіцца надзеяў крывавых,**
**Каб ў мёртвыя вочы глядзець?**

**Зазвінеў і жыццё перайначыў**
**Бліскавіцамі смерці пярун.**
**І таму я, збянтэжаны, плачу**
**Пераборамі сонечных струн.**

**Заплятаецца верас зялёны**
**Па краіне у слёзы й тугу...**
**Разумею адчай і праклёны,**
**А сябе зразумець не магу.**

Публікацыя Пронінай А. А.

# РАСКАЗВАЕ СЫН



### Гутарка з Яўгенам КАЛЕЧЫЦАМ

**У свой час, калі я працаваў над даведнікам «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» (выйшаў у 1981 годзе), звярнуў увагу на разнабой, які тычыўся месца нараджэння Канстанцыі Буйло (Канстанцыі Антонаўны Калечыц). У асабовай справе паэтэсы, што захоўваецца ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, а таксама ў даведніку выдання 1970 года зазначалася, што яна нарадзілася 11.1.1899 г. у горадзе Вільні. У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі дата нараджэння была тая самая, але месцам нараджэння называлася вёска Барсуковіна Ашмянскага павета. За зыходнае я ўзяў дадзеныя ў асабовай справе. Пазней выказвалася ў друку меркаванне, што паэтэса нарадзілася ў Маладзечне.**

**Кідалася ў вочы яшчэ адна дэталь. Калі паэтэса нарадзілася ў 1899 г., а яе першы зборнік «Курганная кветка» выйшаў у 1914, то гэта азначае, што сваю першую кніжку яна напісала ў пятнаццаць з нечым год. Ці магло такое здарыцца?..**

**Паўставала пытанне за пытаннем. Адказы на іх магла даць толькі сама Канстанцыя Антонаўна. Але ж не возьмеш і не напішаш, як то кажуць, з бухты-барахты, ліст паэтэсе, маўляў, растлумачце, дзе тут праўда...**

**Я спадзяваўся, што ўсе кропкі над «і» будуць пастаўлены пасля таго, як вышлю Канстанцыі Антонаўне завізіраваць падрыхтаваную для даведніка нататку пра яе. Але на даведцы яна напісала: «Хай будзе так». Гэта азначала: хоць тут штосьці і не так, але як напісана, так і друкуйце, маўляў, умешвацца не маю ахвоты. Даведка пайшла ў друк без якіх-небудзь змен і ўдакладненняў.**

**Доўгі час мне не давала спакою неадпаведнасць звестак у даведніку звесткам у іншых крыніцах. А калі Канстанцыя Антонаўна памерла (у 1986 г.), то я ўжо думаў, што раскрыць гэтую таямніцу не ўдасца. І раптам на Саюз пісьменнікаў Беларусі прыходзіць архіўная даведка з Вільні: «У дакументах архіўнага фонду «Віленская рымска-каталіцкая кансісторыя» Віленскі дэканат, у кнізе аб нараджэнні ёсць запіс аб тым, што 17 студзеня 1893 г. у Віленскім касцёле св. Якава было ахрышчана дзіця па імені Канстанцыя, дачка сялян Антона і Настазіі народжаных Бусілаў, якое нарадзілася 2 студзеня 1893 г. у г. Вільні. Падстава: фонд 604, вопіс 20, аддзел захоўвання 244, п. 232».**

**Аказваецца, сын паэтэсы Яўген Вітальевіч Калечыц праявіў ініцыятыву і высветліў год і месца нараджэння маці. Раз такая справа, я рашыў паехаць у Маскву і, папярэдне пазваніўшы, сустрэўся з Яўгенам Вітальевічам. Свой расказ ён пачаў з радаслоўнай маці...**

— Бацька маёй маці Антон Аляксандравіч Буйло — селянін, незаконнанароджаны. Нарадзіўся ад сялянкі Буйло і ад нейкага Аляксандра Радзевіча. Пазней Радзевіч жаніўся на Буйло, у іх нарадзіліся яшчэ дзеці, ужо законныя.

Што да прозвішча маці Канстанцыі Антонаўны — Анастасіі Францаўны, то ўстанавіць дакументальна правільнае яго напісанне (Бусіл ці Бусел), бадай, немагчыма. Што датычыць архіўнай даведкі, дзе запісана Бусіл, то ў тыя часы запісы рабіліся са слоў, на слых і не заўсёды дастаткова граматнымі пісарамі, таму памылка тут вельмі верагодная, лічыць Яўген Вітальевіч.

У Антона і Анастасіі было сямёра дзяцей. Першае дзіця, Эмілія, — нарадзілася да 1890 г. і памерла ў маленстве. Другая дачка — Станіслава, 1899 года нараджэння. З усяе сямʼі яна адна засталася пасля першай сусветнай вайны і рэвалюцыі 1917 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Хварэла на сухоты і не змагла выехаць у Савецкую краіну. Працавала выхавацелькай інтэрната для беларускіх дзяцей-сірот у Гродне. Наступная была Канстанцыя, потым сын Эдуард. Ён быў адзіным з дзяцей, хто на працягу некалькіх год вучыўся ў гарадскім вучылішчы.

**— Я сустракаўся з вашай маці, Яўген Вітальевіч. У 1972 г. браў інтэрвʼю ў Канстанцыі Антонаўны. Паводле сцвярджэння паэтэсы, Эдуард быў «вінаваты» ў першай публікацыі яе вершаў. Паэтэса ўспамінала, як яна, тады дзяўчо, саромелася пасылаць вершы ў рэдакцыю, а ён узяў ды і паслаў за сваім подпісам. Так быў апублікаваны ў газеце «Наша Ніва» ў 1909 г. яе верш «Хвоя», потым некаторыя іншыя творы. Я тады звярнуў увагу на наступны факт: у каментарыях да публікацыі гэтага верша ў акадэмічным выданні зборніка «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967) адзначана, што біяграфічных звестак пра аўтара няма. Думаю, няцяжка было складальнікам звярнуцца да аднафамільцы — да Канстанцыі Буйло і ўсё высветліць. Тым больш, што ў яе зборніку «Світанне» апублікаваны верш «На смерць брата Э. Буйло». Нагадваю пра гэта, ведаючы, што ў выбраныя творы «Хвоя» не трапіла. Наколькі я ведаю, лёс Эдуарда склаўся трагічна?**

— У 1914 годзе Эдуард добраахвотнікам пайшоў у армію. Але паколькі ён лічыўся яшчэ непаўналетнім і меў пасведчанне аб заканчэнні гарадской школы, то яго ўзялі вольнапісаным. Потым як быццам ён атрымаў чын прапаршчыка. 20 чэрвеня 1917 г. загінуў на германскім фронце. Гэта калі гаварыць пра Эдуарда. Чацвёртым дзіцем стала Міхаліна (пазней яна перарабіла сваё імя на Іну). Нарадзілася ў маі 1899 г. Такім чынам, яшчэ да атрымання архіўнай даведкі, меўся зусім бясспрэчны доказ таго, што мая маці не магла нарадзіцца ў 1898 г. і, тым болей, у 1899 г. Міхаліна жыве ў Маскве ў сваёй дачкі разам з унучкай і нават праўнукам. Шостай была Ядзя — прыкладна 1901 г. Анастасія Францаўна неяк гаварыла, што дзеці ў яе нараджаліся як па заказу, праз кожныя тры гады (Станіслава — у 1890, Канстанцыя — у 1893, Эдуард — у 1896, Міхаліна — у 1899, Вітольд — у 1903. Паміж Міхалінай і Вітольдам была Ядвіга, але яна памерла ў маленстве). Такім чынам, год нараджэння Эміліі недзе 1887—1888 г.

**— Па тым, што Канстанцыя Антонаўна была ахрышчана ў касцёле, і паводле імёнаў усіх дзяцей відаць, што сямʼя была каталіцкая.**

— Так, усе хрышчаныя ў касцёле. Дзед мой быў няверуючым, а бабка Анастасія Францаўна — заядлая каталічка. У 1911 годзе газеты паведамілі пра выпадак, як адзін каталіцкі свяшчэннік, закахаўшыся ў жонку свайго брата, забіў яго і ўступіў у сувязі з братавай. Адбыўся суд, але рашэннем суда Анастасія Францаўна была незадаволена. Яна прыйшла да свайго ксяндза і заявіла, што на споведзь хадзіць не будзе і ў бога больш не верыць, бо калі б ён быў, то пакараў бы злачынцу. З таго часу яна адышла ад рэлігіі. Жыла ў Міхаліны. Пахавана пад Масквой. Пра што яшчэ расказаць вам?

**— Давайце пяройдзем да вашых бацькоў.**

— У 1916 годзе Канстанцыя выйшла замуж за Віталія Адольфавіча Калечыца. Вянчаліся мае будучыя бацькі ў Полацку. Маці паводле рэкамендацыі Цёткі і Багдановіча сюды прыехала загадваць беларускай кнігарняй. Па сутнасці кнігарня ў Полацку спыніла сваё існаванне недзе ў канцы 1915 або на пачатку 1916 года, і тады Канстанцыя Антонаўна пайшла працаваць у Земскі саюз, які займаўся забеспячэннем фронту, — здаецца, рахункаводам. Калі пачалі наступаць немцы, бацькі сталі бежанцамі. Лютаўскую рэвалюцыю яны сустракалі пад Валакаламскам, дзе і я нарадзіўся, у сяле Назарʼева ў 1918 годзе.

Бацька меў вышэйшую адукацыю, скончыў Пятроўска-Разумоўскую (цяпер яна Ціміразеўская) акадэмію і ў 1929 годзе быў запрошаны прафесарам Тулайкавым, які загадваў першай Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкай, на працу ў Маскву. Парабіў там каля года, і выстаўка закрылася. Бацька застаўся без работы, хадзіў на біржу працы. А потым — трэба ж было зарабляць на жыццё і на кааператыўную кватэру — ён з сябрамі арганізаваў прамыслова-кааператыўную арцель «Маяк», якая вырабляла анілінавыя фарбы для фарбавання матэрыі і іншае. Арцель, у якой працавала ўся наша сямʼя, размяшчалася на Ціхвінскім завулку, непадалёк ад нашага дома. Пазней бацька працаваў інспектарам у Цэнтральным сельскагаспадарчым банку і ў іншых установах.

У ноч з 3 на 4 студзеня 1933 года бацька быў арыштаваны, асуджаны калегіяй АДПУ на дзесяць год. Трапіў у Дальлаг, паблізу Хабараўска. Маці пачала змагацца за бацьку, пісаць, і ў 1934 годзе яго вярнулі ў Маскву для перагляду справы. Аднак пасля забойства Кірава ўсе перагляды палітычных спраў былі спынены. Бацьку зноў адправілі ў Дальлаг. За ўдарную працу на будаўніцтве Сяданскага водаправода ён атрымаў скідку тэрміну на два гады. Потым яшчэ ішлі залікі за старанную працу, тэрмін павінен быў скончыцца недзе на мяжы трыццаць шостага і трыццаць сёмага гадоў.

Я скончыў дзесяцігодку, працягвае Яўген Вітальевіч, у трыццаць пятым і хацеў паступіць ў Інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры, які насіў тады імя Бубнава. Але дакументаў у мяне не прынялі, бо я лічыўся сынам ворага народа. Тады я вырашыў ісці на завод, уладкаваўся на працу слесарам-інструментальшчыкам (гэтаму я навучыўся ў нашай працоўнай школе). Быў ударнікам, дапамагаў маці. Зарабіў ёй грошы для паездкі на Далёкі Усход да бацькі. Бацька ў гэты час быў расканваіраваны і працаваў практычна як вольнанаёмны. Пятнаццаць дзён яны пражылі на прыватнай кватэры ў Хабараўску. Мы чакалі яго вяртання. Але ў 1938 годзе, 23 сакавіка, тройкай УНКУС па Далёкаўсходнім краі ён быў асуджаны на дзесяць год рэжымнага лагера без права перапіскі. Мы ўвесь час хваляваліся за яго лёс, рабілі запытанні, хадзілі ў «Матроскую цішыню» (так называлася турма ў Сакольніках), дзе было даведачнае бюро. Адказвалі: ён не лічыцца ні ў Дальлагу, ні ў іншых лагерах. Толькі ў 1957 годзе на скаргу Канстанцыі Антонаўны і маю былі атрыманы паперы аб пераглядзе справы: пракурор Маскоўскай вобласці паведаміў, што справа па Калечыцу Віталію Адольфавічу адменена і спынена. Разам з дакументамі атрымалі мы пасведчанне аб смерці, у якім указвалася, што бацька «памёр 31 мая 1942 года ад паралiча сэрца, аб чым у кнізе запісаў актаў грамадзянскага стану аб смерці 1957 года кастрычніка месяца 7 дня зроблены запіс за № 100». Месца смерці і месца пахавання не ўказаны. Месца рэгістрацыі смерці — Кастрычніцкі аддзел ЗАГС г. Масквы, дата выдачы пасведчання — 12 кастрычніка 1957 г. З улікам гэтых недарэчнасцей і цяперашнім выкрыццём лагернай практыкі можна меркаваць, што дата смерці лжывая і што бацька быў расстраляны тады ж, у 1938 годзе. Ва ўсякім разе фармуліроўку «дзесяць год рэжымнага лагера без права перапіскі» цяпер трактуюць менавіта так. Я збіраюся падаць заяву праз адваката, каб высветліць сапраўдныя абставіны смерці і месца пахавання бацькі.

**— А што вашаму бацьку інкрымінавалі?**

— Што ён нібыта належаў да Працоўнай сялянскай партыі, арганізацыю якой і кіраўніцтва прыпісвалі Аляксандру Васільевічу Чаянаву, акадэміку Тулайкаву і іншым.

**— Я вось слухаю вас і думаю: добра, што лёс хоць збярог для нас Канстанцыю Антонаўну.**

— Я казаў ужо, што толькі Станіслава засталася ў Заходняй Беларусі. Астатнія дзеці трапілі на тэрыторыю Савецкай Расіі, практычна не маючы ніякіх дакументаў. Да 1928 года маці была пераважна хатняй гаспадыняй. Потым зʼявілася магчымасць паступіць на працу, запатрабавалі пашпарт, а яго не было. Маці пайшла ў міліцыю, каб аформіць пашпарт, — спыталі метрыку. І метрыкі няма. Дзе нарадзілася? Адказала, што не ведае (гаварыць, што нарадзілася ў Вільні, якая тады знаходзілася пад буржуазнай Польшчай, было небяспечна). Пытаюць: а дзе жывуць бацькі? Адказала, што ў вёсцы Дыманова Аршанскага павета Віцебскай воласці (бацька жыў там раней, а ў 1920-м прыехаў да нас на Валакаламшчыну). Такім чынам было няправільна запісана месца нараджэння. На самай справе маці нарадзілася ў Вільні, там яе бацька працаваў прыкладна да 1895 года старшым конюхам на канюшнях князя Гагарына, трэніраваў коней для скачак. Пазней ён быў арандатарам, жылі ў Вішневе і паблізу Вішнева.

**— А як жа з узростам?**

— На пытанне, колькі ёй год, маці адказала: а колькі вы дасцё? Тыя прыкінулі: гадоў трыццаць. Калі нарадзілася? Кажа: дату нараджэння дакладна не ведаю, казалі, што пад новы год. Запісалі 30 снежня. Па новым стылі атрымаўся 1899 год. Пра ўсё гэта маці расказала мне за тры дні да смерці.

Будучы адарванай ад Беларусі, яна доўгі час не пісала вершаў. Вялікі штуршок да творчасці дала вайна. У Маскву зʼехалася многа беларускіх пісьменнікаў, якія працавалі ў рэдакцыях газет, часопісаў, у партызанскім штабе. Сустрэчы з імі, думкі аб радзіме, акупіраванай ворагам, узрушылі яе, яна пачала зноў пісаць. Але друкавацца практычна не магла. Жонка ворага народа! У пасляваенныя гады замежныя радыёстанцыі, а таксама газеты пачалі пра яе гаварыць як пра забытую ў Савецкай краіне паэтэсу. Трэба было даказаць, што яна не забытая. З ёю ўступілі ў сувязь прадстаўнікі беларускага выдавецтва, Саюза пісьменнікаў. У выніку ў 1950 годзе выйшла кніга паэзіі «Світанне». Наогул, я лічу, выдавалі яе мала. Да паэтычнай творчасці яна падыходзіла патрабавальна, часта гаварыла: «Добры верш той, калі яго чытаеш, а мурашкі бегаюць па скуры».

**Такі расказ пра жыццё Канстанцыі Буйло я пачуў з вуснаў яе сына Яўгена Вітальевіча. Паводле яго просьбы прах маці нядаўна перазахаваны ў родную зямліцу на ўскраіне Вішнева. Але пра гэта я ўжо расказваў на старонках «ЛіМа».**

Аляксей ГАРДЗІЦКІ.

*Віншуем!*



**Пісьменніку Міхасю Вышынскаму спаўняецца 50 год. Праўленне СП Беларусі павіншавала яго з юбілеем, пажадала ўсяго самага добрага ў жыцці і літаратурнай працы.**

Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтага віншавання.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, КНІГА УКРАІНЫ!

Сёння правядзенне розных дэкад, тыдняў і дзён успрымаецца крыху скептычна. Маўляў, яны — усяго толькі чарговая «птушачка» для справаздачы аб своечасова зробленых мерапрыемствах. А калі ўсё ажыццяўляецца не па нейчай падказцы «зверху», а па душэўнай неабходнасці? Тады ўжо ніяк нельга гаварыць толькі пра «птушачку». Гэта тычыцца і Тыдня ўкраінскай кнігі, які праходзіць цяпер у рэспубліцы. Ён — не чарговае дзяжурнае мерапрыемства. Ён дае добрую магчымасць усім нам нямала даведацца аб кнігадрукаванні ў братняй рэспубліцы, аб яе поспехах у гэтай справе.

У рамках тыдня — вялікая выстаўка, адкрытая ў Мінску па праспекце Машэрава ў Доме кнігі. Сотні выданняў даюць уяўленне аб сённяшнім стане ўкраінскай літаратуры, яе багатай гісторыі. І, вядома ж, сведчыць, як плённа развіваюцца нашы кантакты ў галіне перакладу. На ўкраінскай мове выстаўлены кнігі В. Быкава, І. Мележа, І. Шамякіна, П. Броўкі, У. Ліпскага, іншых беларускіх пісьменнікаў, выдадзеныя ў апошнія гады.

Ёсць чым пахваліцца і нам. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» нядаўна выпусціла аднатомнік лаўрэата Дзяржаўнай прэміі УССР В. Дразда «Крык птаха ў прыцемку», перакладзены Я. Лецкам. Сапраўдным падарункам аматарам паэзіі стане кніга выбранага Л. Кастэнкі: дзякуючы В. Коўтун і Н. Мацяш па-беларуску загучалі лірыка паэтэсы, а таксама яе раман у вершах «Марыя Чурай», адзначаны прэміяй імя Т. Шаўчэнкі. Кнігі ўкраінскіх аўтараў рэгулярна выходзяць у выдавецтве «Юнацтва». Нядаўна падрыхтаваны тут зборнік «Украінскіх народных казак».

Тыдзень украінскай кнігі праводзяць дзяржаўныя камітэты УССР і БССР па друку, Рэспубліканскае аб'яднанне «Белкніга», Добраахвотнае таварыства аматараў кнігі БССР.

**НАШ КАР.**

*Позірк у мінулае*

# Трое з «саду» на Грушаўцы

**«КПЗБ пры братэрскай дапамозе КП(б)Б стварыла сваю школу ў Мінску ў 1925 годзе... У ёй штогод навучалася 25—30 падпольшчыкаў — партыйных і камсамольскіх работнікаў. Спачатку школа знаходзілася ў прыгарадзе Мінска Лошыцы, а ў момант майго прызначэння загадчыкам — на Грушаўскай вуліцы ў драўляных доміках тыпу невялікай памешчыцкай сядзібы з садам. Падпольшчыкі, якія навучаліся ў школе, абавязаны былі захоўваць строгую канспірацыю. Па гэтай прычыне і сама школа называлася садам». (М. С. Арэхва. «Справы і людзі КПЗБ». Мінск, «Беларусь», 1983 г.).**

**Вядомы дзеяч КПЗБ М. С. Арэхва, расказваючы ў сваёй кнізе пра школу КПЗБ у Мінску, не ўспомніў пра тое, што многія яе слухачы проста з вучэбных класаў траплялі пад скляпенні НКУС, дзе іх катавалі, прымушаючы браць на сябе самыя фантастычныя злачынствы...**

Мне ўдалося сустрэцца з трыма былымі слухачамі гэтай школы, якія прайшлі праз рукі сталінскіх чэкістаў, пагутарыць з імі і запісаць іх успаміны.

**Юрый Аляксандравіч ТАРАСЮК.** Надзвычайнай Нарадай быў асуджаны да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. пасля смерці Сталіна — рэабілітаваны.

**«Мяне і майго сябра Валянціна Таўлая ў буржуазнай Польшчы праследавалі за рэвалюцыйную дзейнасць. Каб пазбегнуць арышту, мы з ім у кастрычніку 1930 года нелегальна перайшлі граніцу і неўзабаве апынуліся ў Мінску, дзе нас уладкавалі на працу ў рэдакцыю газеты «Звязда». Праўда, неўзабаве мяне перавялі ў камісію па вывучэнню Заходняй Беларусі, дзе я працаваў тэхнічным работнікам па зборы інфармацыі. Аднойчы, у сакавіку 1933 года, пасля таго, як Таўлая перакінулі назад у Польшчу, да мяне на вуліцы падышоў незнаёмы чалавек і папрасіў падысці заўтра да чыгуначнага вакзала. У прызначаны час я прыйшоў на прывакзальную плошчу. Там мяне ўжо чакаў, як я зразумеў, чэкіст. Ён прадставіўся Лявонцьевым і прапанаваў сесці ў легкавую машыну, якая стаяла побач. Наша легкавушка доўга пятляла па горадзе, потым затармазіла на ўскраіне, каля высокай доўгай агароджы. Лявонцьеў выскачыў з машыны і, адчыніўшы варотцы, пачаў пра нешта шаптацца з чалавекам, які яго там чакаў. Пасля знакам паказаў, каб я ішоў за ім. Прайшоўшы невялікі тамбур, мы апынуліся ў садзе, у глыбіні якога стаялі чатыры аднапавярховыя драўляныя дамы. Я зазяваўся і не заўважыў, як да мяне падляцелі і пачалі абнюхваць два велізарныя сабакі.**

**— Не бойцеся, — супакоіў мяне Лявонцьеў. — Пры мне яны вас не крануць.**

**Ён завёў мяне ў адзін з дамкоў. Там, пасля выканання нейкіх фармальнасцей, мне паведамілі, што я залічаны слухачом сакрэтнай партыйнай школы КПЗБ. Потым паказалі, дзе знаходзіцца інтэрнат школы. Там мяне сустрэў ветлівы, усмешлівы дзяжурны.**

**— Займай ложак, вось свабодны, — паказаў ён на адзін з акуратна засланых ложкаў.**

**Сказаў і пайшоў, нават не пацікавіўшыся, хто я такі і адкуль родам.**

У школе адначасова вучылася чалавек пяцьдзесят: беларусы, палякі, яўрэі. Было шмат жанчын. Некаторыя з іх былі мінчанкі... Вечарам і ноччу ўзброены дзяжурны з двума сабакамі хадзіў уздоўж агароджы, ахоўваючы сон таварышаў.

У першыя дні мяне залічылі ў гурток фотасправы. Я тады падумаў: «Навошта мяне гэтаму вучаць?» Потым здагадаўся, што навыкі абыходжання з фотаапаратам могуць спатрэбіцца там, у Польшчы. Першым выкладчыкам, якога я ўбачыў у школе, быў Л. Родзевіч-Сталевіч. Я добра яго ведаў, бо ён часта заходзіў да нас у камісію па вывучэнню Заходняй Беларусі. Аднак пасля таго, як ён правёў з намі першыя заняткі, яго нечакана замяніў другі выкладчык. Пасля некалькіх лекцый і яго не стала. Потым усе заняткі, у тым ліку і па фотасправе, у школе спыніліся. Да нас ніхто больш не прыходзіў, за выключэннем Лявонцьева. А ён заўсёды быў пахмурны, хадзіў надзьмуты, як правіла, не адказваючы на нашы пытанні. Праўда, да нашага задавальнення, Лявонцьеў у нас доўга не затрымліваўся. Як толькі за ім зачыняліся дзверы, мы з палёгкай уздыхалі і пачыналі дурэць. Па сутнасці, мы былі яшчэ дзецьмі, хоць жыццё наша было нялёгкае і многаму нас навучыла...

Адзін выпадак мяне неяк асабліва насцярожыў. Аднойчы мы, уключыўшы грамафон, падхапілі дзяўчат і закружыліся ў танцы. У адзін з момантаў я выпадкова зірнуў у акно і начакана сустрэўся з позіркам Лявонцьева, які, як я зразумеў, увесь гэты час стаяў за акном і падглядваў, што робіцца ў нас у пакоі. Нейкае імгненне мы глядзелі адзін на аднаго. Потым Лявонцьеў зварухнуўся, змяніўся ў твары і, цяпер ужо дэманстратыўна прыцісну́ўшыся да акна, пачаў весела нас падбадзёрваць. Праз колькі хвілін ён пайшоў.

— За кім ён сачыў? — пытаўся я ў сябе і не знаходзіў адказу.

Аднойчы пад вечар прыйшоў да нас кухар, папрасіў назбіраць у садзе яблыкаў і начысціць іх для кампота. Мы з радасцю пагадзіліся, бо засумавалі па фізічнай працы. Пасеўшы каля бака, пачалі арудаваць нажамі. Тут чую — нехта крычыць: «Сяргей! (Так мяне называлі ў школе.) У кантору!».

Заходжу ў прыёмную, бачу там Лявонцьева.

— Выбірай любое паліто і хутчэй апранайся, — загадаў ён, паказваючы на паліто, пашытыя па польскім узоры.

Я апрануў, не выбіраючы. Пасля гэтага Лявонцьеў адрывіста кінуў: «Пайшлі!» Каля прахадной нас чакала легкавушка. У машыне, акрамя шафёра, сядзеў чэкіст, які даставіў нас з Таўлаем у 1930 годзе з заставы ў Мінск. Доўга ездзілі па горадзе, пакуль не спыніліся каля Акадэміі навук. Там таксама была нейкая кантора АДПУ, якая месцілася на вуліцы Савецкай (цяпер Ленінскі праспект). Адтуль хутка выйшаў чэкіст з трыма шпаламі ў пятліцах. Як толькі ён наблізіўся да машыны, Лявонцьеў, штурхнуўшы мяне ў бок, буркнуў: «Вылазь!..» Чэкіст завёў мяне на чацвёрты паверх у сакрэтны палітычны аддзел АДПУ, дзе мне аб'явілі, што я арыштаваны. Гэта было 27 жніўня 1933 года...»

Менавіта ў тым годзе пракацілася першая хваля рэпрэсій супраць відных дзеячаў вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Былі абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме (нацдэме) і арыштаваны былыя паслы «Змагання» І. Гаўрылік, І. Дварчанін, П. Крынчык і Ф. Валынец, якія яшчэ не так даўно, увосень 1932 года, у выніку абмену палітзняволенымі паміж Савецкім Саюзам і Польшчай, прыбылі ў Мінск. У 1933 годзе рэпрэсіі не прайшлі і міма відных дзеячаў КПЗБ. Ю. Тарасюк праходзіў па адной «справе» з кіраўнікамі КПЗБ П. Клінцэвічам (Гарбацэвічам), П. Мятлой і іншымі таварышамі.

**Мікалай Іосіфавіч МАТУСЕВІЧ.** Надзвычайнай Нарадай асуджаны да трох гадоў папраўча-працоўных лагераў. рэабілітаваны.

«Па заданні КПЗБ я з адным хлопцам з Беластока перайшоў польска-савецкую граніцу. Гэта было ў канцы кастрычніка 1934 года. Нас прывялі ў Мінск і пасялілі ў нейкай гасцініцы. Праз некалькі дзён па нас прыйшлі і, нічога не тлумачачы, прапанавалі збірацца, сказаўшы, што павядуць у «сад». Мы і не падазравалі, што за гэтым простым словам маецца на ўвазе сакрэтная партыйная школа КПЗБ, дзе праходзяць курс навучання будучыя падпольшчыкі. Калі мне не здраджвае памяць, «сад» знаходзіўся на Кацельнай вуліцы ці недалёка ад яе. Там яшчэ працякаў маленькі раўчук.

Школа ўяўляла сабой чатыры невялікія несамавітыя драўляныя будынкі, якія з усіх бакоў акружалі густыя пасадкі яблынь. Увесь сад быў агароджаны высокім плотам. У школе адразу ж знялі з мяне польскую і выдалі савецкую апратку. З новым пінжаком я атрымаў і новае імя. Усе паўтара года, якія правёў у школе, я быў для ўсіх проста «Юра». Для ўсіх без выключэння, акрамя аднаго чалавека — майго сябра і таварыша па падполлі Сяргея Прытыцкага, якога ў школе называлі «Янак». У кожным пакоі інтэрната стаяла па 5—6 ложкаў. У адным з такіх пакояў некалькі месяцаў жылі і мы з Сяргеем. Ложкі нашы стаялі побач, і калі нам хацелася пагаварыць, мы рабілі адзін аднаму знакі, пасля чаго па адным выходзілі ў калідор ці ў сад, дзе, паволі пацягваючы «Казбек», абменьваліся думкамі аб нашым няпростым жыцці. Па маім бацьку Прытыцкія былі нам далёкія сваякі, вёскі нашы знаходзіліся за некалькі кіламетраў. Мы з Сяргеем сябравалі з малых гадоў... У пачатку 1935 года Прытыцкі са школы знік. Я адразу здагадаўся, што яго перакінулі туды...

Мінула больш за год. І вось у пачатку лютага 1936, праглядаючы польскую газету, я даведаўся, што Прытыцкі ў судзе страляў у галоўнага сведку абвінавачання, правакатара Якава Стральчука...

**Займалася нас у школе адначасова чалавек 50—60. Для тых, хто быў больш адукаваны, вучэбная праграма была разлічана на 2—3 месяцы. Гэтыя слухачы, як правіла, вывучалі гісторыю рэвалюцыйнага руху на Захадзе, эканамічную геаграфію Польшчы і Заходняй Беларусі, спасцігалі на працягу кароткага часу новы для іх курс марксізму-ленінізму, пасля чаго іх перапраўлялі назад у Заходнюю Беларусь. Тыя ж, хто, як і я, пачыналі фактычна з нуля, спасцігалі «азбуку» ленінізму. Добра помню выкладчыцу Ц. Гурэвіч (для ўсіх нас яна была «Лідская»). Гэта была строгая і патрабавальная жанчына, якая карысталася ў нас вялікім аўтарытэтам.**

**Асноўная ўвага ў школе надавалася самастойнаму вывучэнню матэрыялу. Вучылі выкладаць свае думкі так, каб пераканаць масы ў праваце камуністычнай ідэі.**

**У адзін з вясновых дзён 1936 года мяне раптам выклікалі з лекцыі. У калідоры мяне чакаў чалавек у цывільным, які назваў сябе прадстаўніком ЦК КПЗБ.**

**— Ну, Юрка, паехалі, — пасяброўску ляпнуўшы па плячы, сказаў ён.**

**Хутка апрануўшыся, я сеў у легкавушку. Машына рванула з месца і пакіравала ў цэнтр горада. Пад'ехалі да будынка НКУС, выйшлі з машыны. «Прадстаўнік» ЦК, падштурхнуўшы мяне ў спіну, завёў у памяшканне. Я ўсё яшчэ спадзяваўся, што гэта праверка перад пераходам граніцы. Але ўсё стала зразумела, калі ў адным з пакояў мяне сустрэў следчы, які аб'явіў, што я арыштаваны...**

У канцы 70-х я наведаў Мінск, дзе мне ўдалося адшукаць маю выкладчыцу па марксізму-ленінізму Цылю Ісаакаўну Гурэвіч (псеўданім «Лідская»). Гэта была цёплая сустрэча. Яна расказала мне, што і ёй давялося адчуць на сабе чыгунныя кулакі работнікаў НКУС. Дзесяць гадоў папраўча-працоўных лагераў і ярлык «ворага народа» — такую «ўзнагароду» атрымала яна за тое, што сумленна вучыла нас вернасці камуністычным ідэалам.

І апошняя сустрэча. **Міхаіл Васільевіч ХВАЙНІЦКІ.** Быў асуджаны да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў, рэабілітаваны.

«У пачатку чэрвеня 1935 года мяне і яшчэ аднаго таварыша па заданні КПЗБ пераправілі праз польска-савецкую граніцу. У той жа дзень з пагранзаставы на легкавым аўтамабілі нас прывезлі ў Мінск і ўладкавалі ў гасцініцы. Наш двухмесны нумар быў утульны і здаваўся пасля столькіх месяцаў пакут сапраўдным раем. Наступнай раніцай у дзверы ціха пастукалі. Не дачакаўшыся адказу, у нумар увайшоў незнаёмы. Павітаўшыся, ён паклаў на стол тоўстую шпулю трамвайных і аўтобусных білетаў, потым выцягнуў з партманета грошы.

— Што трэба — купляйце, — сказаў нечаканы госць. — Усе пакупкі рабіце праз нашага чалавека — прыбіральшчыцу. Яна будзе ўсё прыносіць. Гэта наш правераны чалавек.

Сказаўшы гэта, незнаёмы знік.

У гасцініцы мы жылі цэлы месяц. Потым да нас аднойчы зайшоў прыемнай знешнасці мужчына і спытаў:

— Згодны вучыцца?

— Згодзен, — выгукнуў я, не падазраючы, што вучыцца мне давядзецца не ў навучальнай установе, а ў сакрэтнай школе.

Мой сябра, крыху падумаўшы, адмовіўся.

— Накіруйце мяне кудынебудзь на работу, — папрасіў ён, — я вучыцца не хачу.

Незнаёмы згодна кіўнуў галавой і сказаў, што паклапоціцца аб гэтым. Мне ж даў зразумець, каб я пайшоў за ім.

Так я трапіў у партыйную школу КПЗБ, дзе мне давялося прабыць 10 месяцаў. Як мне потым растлумачылі, школа гэтая непасрэдна падпарадкоўвалася секцыі Камінтэрна. Яна ўяўляла сабой агароджаны плотам сад, плошчай гектараў пяць, і некалькі драўляных пабудоў. Жылі мы, можна сказаць, на ваенным стано-

вішчы. Па начах хадзілі ў караул, самі неслі варту. Нашымі памочнікамі ў начных дзяжурствах былі два вялікія сабакі, аднаго з якіх звалі Мурзік.

Калі я выйшаў са зняволення, то спецыяльна прыехаў у Мінск, каб знайсці тое месца, дзе размяшчалася наша школа. На жаль, горад тады ляжаў у руінах, дзе там што знойдзеш...

**Слухачы школы на курсы ці на класы не падзяляліся. Усе, каля 60 чалавек, займаліся разам. Колькі павінна была працягвацца вучоба, таксама ніхто не ведаў. Не прыняты былі ў нас, у падпольшчыкаў, роспыты, калі трэба — скажуць. Слухачы ў большасці сваёй — былыя падпольшчыкі, члены КПЗБ...**

**Падрыхтоўка наша была разнастайная: ад знаёмства з рускай і замежнай літаратурай да авалодання навыкамі стральбы з усіх відаў зброі. Штудзіравалі гісторыю партыі па аб'ёмнай кнізе Яраслаўскага, а таксама па больш кароткай — Кнорына. Канспектыўна, каб мець агульнае ўяўленне, знаёміліся з кампартыямі буйных капіталістычных краін: нямецкай, французскай, італьянскай і інш. Штодня адточвалі польскую мову. У нашым распараджэнні была багатая бібліятэка. Усё гэта давала магчымасць рыхтаваць з нас стойкіх змагароў падпольнага фронту. Для таго, каб мы ў экстрэмальнай сітуацыі маглі пастаяць за сябе, а калі трэба, то арганізаваць і павесці за сабой баявую групу, нас старанна навучалі ваеннай справе. Дзеля гэтага нас рэгулярна вывозілі на палігон. Там мы пад кіраўніцтвам ваеннага інструктара спасцігалі навыкі партызанскай барацьбы. Асноўнымі выбуховымі рэчывамі, з якімі нам даводзілася працаваць, былі тол і аманал. Мы ведалі формулу, па якой разлічвалі, колькі таго ці іншага рэчыва трэба, каб узарваць рэйку на чыгуначным палатне або выбухам скасіць у лесе хваіну.**

**Дзяўчаты таксама не адставалі ад нас. Яны, як і мы, таксама вучыліся абыходзіцца з ручнымі гранатамі, страляць з ручной зброі, кулямёта, нават з аўтамата, які ў тыя гады лічыўся сакрэтнай зброяй.**

Чым даўжэй я вучыўся, тым усё часцей пачаў заўважаць, што некаторых слухачоў школы час ад часу некуды па адным адвозілі, і яны больш у школу не вярталіся. Куды іх забіралі, я не ведаў, але думаў, што ў Польшчу. Помню, прыйшлі па Мікалая Матусевіча, потым — па Аркашу Бандарыка (ён быў, як і я, з Бераставіцы).

Па мяне прыйшлі 23 жніўня 1936 года. У 12 гадзін дня выклікалі з заняткаў, як мне сказалі, на пяць хвілін. Помню, дзяжурны, прыадчыніўшы дзверы, спакойна сказаў: «Ляўкоў, на выхад!» Там усе мяне ведалі пад гэтым прозвішчам. Я выйшаў. Адзін з тых, што стаялі ў калідоры, ціха перапытаў: «Хвайніцкі?»

— Так, — таксама нягучна адказаў я.

Мне прапанавалі схадзіць наабедаць. Хутка перакусіўшы, я пайшоў да людзей у цывільным, якія мяне чакалі. Калі я збіраў свае няхітрыя рэчы, да мяне падышоў выкладчык і, неяк цяжка паглядзеўшы на мяне, прамовіў:

— Міхал, я веру табе і ведаю, што ты чэсны. Трымайся!

У спецыы я спачатку не ўлавіў сэнсу гэтых слоў. Толькі праз гадзіну, калі я трапіў да следчага, усё зразумеў...»

Бязглуздыя, неабгрунтаваныя абвінавачанні Сталіна ў адрас кіраўніцтва КПЗБ далі падставу не толькі для расправы з асобнымі камуністамі, але з усёй партыяй. А пастанова прэзідыума Выканкома Камінтэрна аб роспуску Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў 1938 годзе з'явілася, па сутнасці, шырмай, якая прыкрыла ўжо развязаны тэрор у дачыненні да заходнебеларускіх камуністаў...

**А. ЗАЕРКА,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

## *Пераклады*

**Аршалуйс МАРГАРАН**

### *Маё шчасце*

Я знаю, шчасце,
Прыйдзеш, не мінеш.
Так многа год я жду цябе,
Так многа!
Ты непрыкметна прыйдзеш да мяне,
На чорны камень сядзеш ля парога.
Ты будзеш дзень і ноч
Сачыць за мной,
Каб мне апавясціць пра свае цуды.
Калі ж нарэшце час настане твой,
Мяне пачнеш
Падсцерагаць усюды.
І будуць
На парог мой
Дрэў лісты
Струменіць свае шэлесты шторанак.
Маё зямное шчасце, прыйдзеш ты,
Але тады, калі я небам стану.
Калі змяню цялесны воблік свой
І стану
Белым клікам зараніцы,
І буду промнем, кветкай веснавой,
Безабаронна да цябе туліцца.
І стану я святлом,
Каб раздарыць
Сябе людзям усім,
Далінам, горам.
І стану белым голубам кружыць
Над нашым даўнім,
Урартыйскім морам,
Я стану ўсім —
І азарыцца муць
Начная з беспрасветнаю імглою.
І я пачую, як званы гудуць
Над аршапецкай роднаю зямлёю.
І зноў
У неба заструменіць дым
З таніра папялішчаў і ўльецца
Ён свежым хлебным пахам залатым
У маладое над зямлёй дасвецце.
І я пачую,
Як вада журчыць,
Што ў садзе бацькі
Высмягла ў спякоту.
Ты, знаю,
Прыйдзеш, каб са мной пабыць,
Калі
Я перастану быць самотнай.

### *Наш дом*

Вядома, дом наш малы быў,
Ды ён стаяў на ўзлессі юным,
І жаваранак весяліў
Нас на вясёлцы сямiструннай.
Уважна прыглядаўся дом,
Як сцежка ў даль віецца строма.
Шапталі кветкі пад акном,
Заслухаўшыся ў песню грома.
Зялёны дождж. І забыццё,
Узлёт да зорнага мігцення
І станавіўся быт быццём,
І вечнасцю было імгненне.
Вядома, дом наш малым быў,
Ды ён стаяў на ўзлессі юным,
І жаваранак весяліў
Нас на вясёлцы сямiструннай.

### *Мова армян*

Не з чужых песень, што пяюць,
Не з славароў, з кніг адмысловых
Я палымняную сваю
Армянскую пазнала мову.
Зямля была лемантаром,
Патокі, што збягалі звонка
З вяршынь, праз хмары напралом
Заўжды са мной вялі гамонку.
А там, дзе ў сіняве абрыў
І жарам дыхае дуброва,
Шыпшыннік шчодры мне дарыў
Свае пурпуравыя словы.
І залаты жаўрук вясной,
Увесь ахоплены зарою,
Узняўшыся па-над зямлёй,
Свой шарапан * пеў нада мною.

Зямлі пісьмёны — сцежак рад —
Маёй найлепшай кнігай сталі.
І на зямлі — за складам склад —
Я сваю мову вывучала.
Яе ўзяла я змест і жар.
І гул магутны сіл надзённых.
І між сухой травы хачкар
Быў маёй літарай каменнай.
О манускрыпт маёй зямлі,
Дзе горы, травы і дубровы,
І старажытныя ў пылі
Палаюць камяні як словы!
Тут мова ўсё — і храм стары
У свечках ззяючы васковых,
Які з зары і да зары
Гучыць каменнаю прамовай.
І схілы горныя хрыбтоў
Над гулкай гліняю даліны;
Прыслухайся — і гул вякоў
Пачуеш ты з глухіх глыбіняў.
Прыслухайся — шуміць вада,
Таемны сэнс скрываюць горы.
На неба глянь — зор чарада
З табой аб вечнасці гаворыць

●

Прызнайся ж,
Што за пазухай
Трымаеш галубоў —
Вунь тых,
Што праляцелі
Па блакіце неба!
Прызнайся ж,
Што ў сэрцы чуеш іх —
Тых, што праз сэрца сонна
Зараз праляцелі?
Скажы,
Ты іх малітвай будзіш
Раніцой?
Дзень распачаўся імі
І канчаўся імі.
. . . . . . . . .
Так і жыццё маё...
Яно, як белы голуб,
Пранеслася па сіняве тваёй.
Але чамусьці
Крык маёй душы
Ты так і не сагрэў?

### *Армянскія горы*

Армянскія горы, высокія вы,
Уздымаецеся так пад самы зеніт,
Што варта прабіцца сцяблінкам травы,
Як з сонцам адразу зліюцца яны.

Армянскія горы вартуюць вякі,
І зоры над імі бяседу вядуць,
І поўныя звонам зарніц раўчукі,
Нібыта не з гор, але з неба бягуць.

О, як жа высока стаяў над зямлёй
Наш домік, так блізка да тваіх нябёс!
Дык што ж ты такі быў сляпы, божа мой,
Не бачыў ні бед нашых горкіх, ні слёз?

З армянскай.
Пераклаў Максім ТАНК.

* Гімн.

**Ганарар за публікацыю перакладчык пераводзіць на рахунак ТБМ імя Ф. Скарыны.**

# Браты Ельскія

Ідзе няўмольны час, і ён згладжвае ў нашай памяці многае. Некалі вядомыя імёны ў кругаверці жыцця неўпрыкмет апынуліся на заднім плане, і мы пра іх толькі зрэдку ўспамінаем. Так здарылася і з братамі Ельскімі, маімі землякамі, што жылі на тэрыторыі Пухавіцкага раёна. Глыбока перакананы, што шырокаму колу грамадскасці сёння гэтыя імёны мала пра што гавораць, а нехта і зусім пра іх нічога не чуў. Успамінаць пра такіх асоб — наш грамадзянскі абавязак.

Браты Ельскія... Міхаіл Карлавіч — прызнаны скрыпач, кампазітар і дырыжор. Гастраляваў у Мінску, Кіеве, многіх польскіх і нямецкіх гарадах. Напісаў каля ста музычных твораў: два скрыпічныя канцэрты, паланезы, мазуркі, скрыпічныя фантазіі. У большасці з іх удала выкарыстоўваў беларускія народныя мелодыі, якія сам запісваў. Жыў у бацькоўскім маёнтку ў Дудзічах — у тым панскім доме, у якім і нарадзіўся.

Аляксандр Карлавіч, які жыў у маёнтку Замосце, недалёка ад брата,— знакаміты пісьменнік, гісторык, этнограф і краязнавец... Удзельнік Крымскай вайны. Стварыў у Замосці літаратурна-краязнаўчы музей, у фондах якога было больш за сем тысяч кніг, дваццаць тысяч рэдкіх рукапісаў, больш за тысячу гравюр, калекцыі карцін, манет і археалагічных знаходак. На беларускую мову пераклаў першую частку паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», асобныя яго вершы. Выдаў зборнік ста прыказак, загадак, прыдумак «Пра беларускую гаворку», «Слоўнік жабрачае гаворкі на Белай Русі», «Згубны культ чужаземшчыны ў нас у святле айчыннай літаратуры». Напісаў каля дзесяці тысяч артыкулаў для «Геаграфічнага слоўніка каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх».

З вялікай спадчыны Аляксандра Карлавіча многае ўяўляе пэўную гісторыка-літаратурную цікавасць. Скажам, артыкул «Пра беларускую гаворку» — адказ польскаму паэту Юзафу Кучынскаму, які жыў у вёсцы Карытна на Бабруйшчыне і напісаў «Слова пра гаворку і народную паэзію беларусаў». Аляксандр Карлавіч абураецца тым, што Кучынскі «выказаў занадта, можа, песімістычныя меркаванні пра будучыню беларушчыны», і прапануе «разгледзець, як там, на вяршыні цывілізацыі, да якой нам далёка, выглядае справа з адносінамі народных гаворак да так званай культурнай мовы». І далей: «Народная паэзія ўсюды папярэднічала «штучнай»; гэта аксіёма, прынятая сёння ў навуцы. Гаворкі, ці простанародныя паддыялекты, з'яўляюцца для літаратурна развітых моў тым, чым карэнне для магутнага дуба: бо гэтым шляхам культурная мова, як камель дрэва праз карэнне, цудоўна ўцягвае ў сябе сокі жыцця. Гэтай скарбніцай самабытнай паэзіі можа самым бяспечным чынам карыстацца кожная развітая літаратура і ні ў якім выпадку не павінна пазбывацца яе, легкадумна мяркуючы, што лепей здабываць жыццё з іншых крыніц, чым з глебы».

Думкі публіцыста А. Ельскага, нібыта, супадаюць з настойлівым жаданнем некаторых нашых сучаснікаў адасобіцца ад беларускай мовы, ажывіць дыялект гаворак таго ці іншага рэгіёна рэспублікі. Вучоны піша: «Кожная нацыя павінна мець сваю асобную мову».

Далей А. Ельскі пісаў: «Чалавек, пакуль ён знаходзіцца ва ўлонні простанароддзя, увогуле не патрабуе іншага органа для абмену думкамі і выказвання патрэб, чым той, які незалежна і несвядома расцвіў для яго за доўгія вякі ў ягоным жа **гняздзе** (выдзелена мною.— **В. М.**). Родная мова ў дакладным значэнні ёсць самая любімая спадчына **нацыі;** праз яе пасрэдніцтва лягчэй за ўсё пранікнуць у душу нацыі, закрануць пачуцці, праясніць розум, падштурхнуць адпаведную думку, заклікаць да дзеяння, змагацца са страсцямі, ствараць дабрачыннасці! Навошта ж іншыя фактары, менш блізкія або чужыя?»

Актуальна сёння гучаць яго словы: «Мы не думаем, зрэшты, пярэчыць таму, што блізкая літаратурная мова можа, у меру істотнай патрэбы, узбагачаць такія гаворкі, як беларуская і маларасійская, юрыдычнымі, тэхнічнымі, навуковымі словамі, аднак становча перакананы ў бязмэтнасці разбурэння іх будовы і шкоднасці пераўтварэння іх духу...»

Па-мойму, яшчэ адну важную і правільную выснову робіць А. Ельскі, сцвярджаючы, што «Беларускі і маларасійскі дыялект нельга параўноўваць з паддыялектамі, напрыклад, валагодскім, уладзімірскім, разанскім і інш., бо калі ў гэтых апошніх розніца ледзьве заключаецца ў малой колькасці правінцыялізмаў... то, наадварот, беларускі і маларасійскі дыялект маюць адметна выпрацаваныя гукі...» Тут ужо зразумела без тлумачэнняў, што вучоны выступае супраць адасаблення пухавіцкіх, мсціслаўскіх, лагойскіх, пінскіх дыялектаў, якія адно і могуць існаваць паддыялектамі!

Запыняючы ўвагу чытачоў на «Слоўніку беларускай мовы» І. І. Насовіча, А. Ельскі піша: «З таго часу, як існуе гэта багатая крыніца мовы нашага народа, якая змяшчае звыш 30 тысяч слоў, беларуская мова можа быць спакойная за будучыню і развівацца на ўласнай глебе, толькі б добрая грамадзянская воля аўтараў умела выказаць гэтай мовай усё высакароднае, прагрэсіўнае і карыснае. Культурная ж руская мова, несумненна, знойдзе ў беларушчыне нямала родных славянскіх скарбаў...»

У многіх творах вучонага мы знаходзім думкі, актуальныя нашаму часу. Напрыклад, у артыкуле «Адам Міцкевіч на Беларусі» А. Ельскі не падзяляе Беларусь на нейкія паддыялекты: «Бо старажытны ж і народ гэты, што насяляе разлеглыя абшары: ад вытокаў Дняпра да Буга і Нарава, ад Віліі да Прыпяці — гняздо старадаўняй славяншчыны, краіна герояў, гусляроў, патрыярхальных адносін і ахвяр у імя ўзнёслых ідэалаў!»

А ў адным з пісем да Я. Карловіча А. Ельскі ўсклікае: «Але Беларусь, амаль некранутая, мае будучыню не народаў, што аджылі, а тых, якія цягнуцца да жыцця, як кветка пад праменнямі сонца. О! Не згінем і мы, і маладыя нашы браты! Я веру ў гэта, бо ясна бачу і разумею праз аналогію, што адмоўныя факты жыцця дадзенага палітычнага арганізма не могуць даць яму трываласці, нягледзячы на ўяўную магутнасць, а чым арганізм большы, тым небяспека для яго існавання больш пэўная».

Мы занадта рэдка вяртаемся да думак удумлівых пісьменнікаў, якія тварылі шмат гадоў назад. І, жывучы так, часцей за ўсё не ведаем пра тыя мудрыя выказванні, якія народжаны нашымі славутымі землякамі.

**Валянцін МЫСЛІВЕЦ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Дзятлаву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Ставеру з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.**

**Праўленне Саюза тэатральных дзеячаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці члена саюза, заслужанай артысткі БССР Лізаветы Парфёнаўны МАЦІСАВАЙ і выражае спачуванне блізкім нябожчыцы.**

